*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
23
ЖНІЎНЯ
1991 г.
№ 34 (3600)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





УРАДЖАЙ-91

# Званок з РАПА: дашліце зводку!

«Жанчынкі ў нас моцныя, хоць спрэс і пажылыя пенсіянеркі», — з непрыхаваным гонарам сказала мне брыгадзір з Пашкавіч Ганна Міхалевіч, калі прыйшлі мы з ёю на памідорнае поле. Паглядзеў, як кабеты з натугаю падымалі саракакілаграмовыя скрыні з памідорамі і неслі іх да машыны, і стала мне на душы маркотна. Дзе, у якой яшчэ краіне пабачыш такую гаротніцу, як наша калгасна-саўгасная жанчына?!

Саўгас «Рассвет», пра які я вяду аповяд, кажучы афіцыйнай мовай, мае малочна-гародніннную спецыялізацыю. Пад гароднінай тут занята трыста гектараў, на якіх вырошчваюць агуркі, памідоры, капусту, кроп, буракі і г. д. — усяго 23 найменаванні.

Гутару з галоўным аграномам гаспадаркі Іосіфам Зяновічам Бушылам. Задаю яму чыста практычнае пытанне — чаму сёлета ў горадзе такія вар'яцка высокія цэны на гародніну? У самую пару агуркоў дзяржаўная цана на іх трымалася да трох рублёў за кілаграм. Кажу яму, што пры такіх цэнах гаспадарка іх, відаць, купаецца ў грашах.

— Ага, купаецца, — сумна ўсміхаецца аграном. — Ледзь канцы з канцамі зводзім. Чаму? — Ён вымае з шуфлядкі некалькі паперын, падае мне. — Вось паглядзіце, на колькі ўзраслі дзяржаўныя цэны на тэхніку, мінеральныя ўгнаенні, ядахімікаты. Бачыце? У тры-чатыры разы. А наогул, — працягвае ён, — сёлета ад рэалізацыі гародніны мы будзем мець прыбытку менш, чым летась. Дай Бог дацягнуць да мільёна рублёў. А летась быў мільён сто тысяч.

Частку гародніны саўгас перапрацоўвае на сваім уласным кансервавым заводзіку. Здаец-

(Працяг на стар. 3).

# ГЕГЕМОН ПЛАЦІЦЬ ШТРАФ

**Мінскі падшыпнікавы завод. Цэх ролікавых падшыпнікаў № 1. Распараджэнне 12.7.91 г. № 354. г. Мінск. Аб пакаранні Цыбульснага А. М.**

**Токар Цыбульскі А. М., табельны нумар 12950, 2.7.91 г. зрабіў прагул без уважлівай прычыны. Ад Цыбульскага атрымана пісьмовае тлумачэнне. Кіруючыся п. 6 пастановы СМ БССР і ВЦСПС ад 28.7.83 г. № 745 «Аб дадатковых мерах па ўмацаванні працоўнай дысцыпліны», — загадваю:**

**За зроблены прагул без уважлівай прычыны токару Цыбульскаму А. М.:**

**1. Аб'явіць вымову і дэпрэміраваць па выніках працы за ліпень 1991 г. на 100 працэнтаў.**

**2. Пазбавіць прэміявання па выніках работы завода за 1991 г. на 100 працэнтаў.**

**3. Зменшыць чарговы адпачынак на 1 рабочы дзень.**

**4. Пазбавіць кампенсацыйнай аплаты — 100 рублёў і даплат на абеды за ліпень 1991 г. на 100 працэнтаў згодна з загадам дырэктара завода ад 16.5.91 г. «Аб умацаванні працоўнай дысцыпліны на заводзе».**

**Начальнік цэха В. І. Мінвалееў, старшыня цэхкома В. А. Брыдковіч.**

Нядаўна пяць рабочых цэха ролікавых падшыпнікаў № 1 МПЗ падалі ў народны суд Заводскага раёна г. Мінска іск на адміністрацыю завода з нагоды няправільнага спагнання штрафаў, пазбаўлення кампенсацыйнай аплаты, а таксама нявыплаты ў поўным памеры індэксацыі за ўздаражанне жыцця.

Мне давялося пабыць на судовым пасяджэнні, дзе пад старшынствам народнага суддзі І. Мардовіч разглядалася гэтая справа. Па даверанасці інтарэсы рабочых прадстаўлялі тут В. Палішчук і В. Якаўчык. Адказчыкам ад адміністрацыі быў кіраўнік юрыдычнага бюро прадпрыемства В. Гурын.

Ці не з першых хвілін пасяджэнне ператварылася ў своеасаблівае пікіраванне суддзі з істцамі, якія, на думку І. Мардовіч, прыйшлі ў суд непадрыхтаваныя. Будзем аб'ектыўныя, у многім суддзя мела рацыю — Палішчук і Якаўчык блыталіся ў шматлікіх паперах, якія яны прынеслі з сабой, адхіляліся ад сутнасці справы, даючы волю эмоцыям і г. д. Але ўсё гэта адбывалася не таму, што праўда была не на іх баку. Ва ўсім цывілізаваным свеце пры аналагічных сітуацыях інтарэсы рабочых абараняюць адвакаты, тут жа яны мушаны былі плыць без «руля и ветрил» у бурлівым судзейскім моры.

Пасля пасяджэння я пацікавіўся ў Гурына, ці аказвае яго бюро юрыдычную дапамогу рабочым? Ён паглядзеў на мяне, як на дзівака. «Мы стаім на варце інтарэсаў завода», — адказаў Гурын, пацвердзіўшы, сам таго не жадаючы, арганічную адчужанасць працоўнага чалавека ад сродкаў вытворчасці, якімі, згодна з пастулатамі сацыялістычнай ідэі, ён і валодае...

Неўзабаве пасля таго суда я пабываў на падшыпнікавым заводзе. Доўгая размова тут адбылася ў мяне з начальнікам аддзела планавання, працы і заработнай аплаты Я. Талаем і начальнікам бюро па працоўнай дысцыпліне І. Жаўтком. Іван Іванавіч растлумачыў, што штрафныя санкцыі за адзін дзень прагулу ў грашовым вылічэнні складаюць недзе 280—300 рублёў. «Ці не замнога?» — спытаў я, дадаўшы, што, як мне расказалі рабочыя, гэтым пакаранне не абмяжоўваецца, «штрафніка» яшчэ могуць пазбавіць летняга адпачынку, адсунуць чаргу на кватэру і да т. п. «Інакш не можам, — кажа Яўген Аляксеевіч, — трэба неяк умацоўваць працоўную дысцыпліну». «І дапамагаюць пакаранні?» — цікаўлюся я. «Не вельмі, — прызнаецца Жаўток. — У тым жа першым ролікавым цэху, дзе працуе Палішчук, за паўгода было зроблена 348 прагулаў, а ўвогуле па заводзе за першыя шэсць месяцаў гэтага года колькасць прагулаў у параўнанні з адпаведным перыядам леташняга года павялічылася на 15 працэнтаў. У 1990 г. прагулаў было больш, чым у папярэднім, на 39 працэнтаў».

Вось такая цікавая дынаміка.

Скажу адразу — я катэгарычна супраць парушэнняў працоўнай дысцыпліны, тым больш прагулаў. Але ж не магу не думаць і пра тое, што парушэнні гэтыя сталі адметнай рысай нашай «народнай» гаспадаркі, якая з'яўляецца неад'емнай часткай каманднa-адміністрацыйнай сістэмы.

Палітыка бізуна і перніка, узятая на ўзбраенне камуністычнай партыяй, за семдзесят гадоў «сацыялістычнага выбару» выявіла поўнае сваё банкруцтва. «Пернік» у выглядзе ордэнаў і медалёў, ганаровых званняў і грамат выпадаў, вядома ж, лічаным асобам, астатняя маса працоўных укалвала ці не за самы нізкі ў свеце заробак, так і не зразумеўшы, што «праца з'яўляецца справай гонару, доблесці і геройства».

Ці не з дзяцінства падручнікі па гісторыі гаварылі нам, як блага жылося рабочым да рэвалюцыі, як пакутавалі ад штрафаў, як асуджаліся на жабрацкае жыццё.

Мінуўся час, царскі лад змяніўся «ладам рабочых і сялян», а метады тыя ж?

Чытаю ленінскія «Заўвагі да праекта тэзісаў Троцкага «Чарговыя задачы гаспадарчага будаўніцтва» (У. І. Ленін. ПЗТ, т. 40, стар. 190): «...в число мер для повышения дисциплины и производительности труда должны войти понижение пайка для неисправных и т. п.». Напісана гэта было ў 1920 годзе. Здаецца, за семдзесят гадоў, што сплылі з таго часу, можна было зразумець, што «понижение пайка» сваёй мэты так і не дасягнула. Не на гэтым павінна трымацца эканоміка, жыццё наша.

**Міхась ЗАМСКІ.**

# Званок з РАПА: дашліце зводку!



(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

ца, выдатна? Мой спадарожнік фатакор газеты «Белорусская нива» Аркадзь Бірылка адразу загарэўся — трэба неадкладна туды ехаць, зрабіць здымак. Але крыху супакоіўся, калі аграном прызнаўся, што «завод» той крайне нерэнтабельны — летась даў усяго 23 тысячы рублёў прыбытку. Курам на смех.

— Але ж даруйце, Іосіф Зянонавіч, — кажу я, — у магазіне трохлітровы слоік кансерваваных агуркоў каштуе каля васьмі рублёў. Чаму ж цэх не рэнтабельны?

І. Бушыла тлумачыць, што адвозіць агуркі ў магазін свежымі, пры цяперашняй закупачнай цане, больш выгадна.

Ды і наогул, як мы даведваемся, працуе цэх, як кажуць, цераз пень-калоду. У дзень нашага прыезду ён наогул стаяў.

— Не ўсё ў нас добра расце, але асартымент гародніны нам прапанаваў райаграпрам,— скардзіцца Бушыла.

— А калі не паслухацца, вырошчваць тое, што выгадна?— пытаюся я.

Іосіф Зянонавіч паціскае плячыма:

— Пакараюць — прэмій, даплат не дадуць.

Пабылі мы і на машынным двары саўгаса, бо — што гэта за рэпартаж з уборкі без фотаздымка камбайнераў? Хоць на фота, як бачыце, на тварах саўгасных механізатараў Івана Арцімені і Пятра Кішулі вясёлыя ўсмешкі (як не ўсміхнешся, калі аб гэтым просіць фатакор), на душы ў іх было сумна і маркотна. Каторы дзень іх «Бізон» стаіць на прыколе — задажджыла, а прастой б'е па кішэні, бо плацяць камбайнерам за намалочанае збожжа — два рублі за тону. Праўда, пакуль што яны трымаюць першынство ў саўгасе — намалацілі ўжо 220 тон збожжа, за што і былі рэкамендаваны галоўным аграномам для фатаграфавання ў газету.

А наогул, убрана ў саўгасе пакуль што яшчэ палова збожжавых — зноў-такі, перашкаджае надвор'е. Кожны гектар дае ў сярэднім па 39 цэнтнераў збожжа, чым Бушыла, па яго словах, усё ж не задаволены — летась было пад 50.

...У дыспетчарскай мы выпадкова сталі сведкамі тэлефоннага званка з райаграпрама з патрабаваннем перадаць зводку па нарыхтоўцы кармоў—колькі закладзена сіласу, сенажу, сена розных гатункаў, колькі занята на гэтай працы людзей і г. д.

— І часта даводзіцца перадаваць такія звесткі? — не стрымаўся я.

— Тры разы на тыдзень, — адказала дыспетчарка. — Па надоях і здачы малака, ацёле кароў, ходзе ўборкі, выкананні плана продажу прадуктаў дзяржаве.

Падумалася — каманднa-адміністрацыйная сістэма жыве! Цяпер, калі надзвычайшчыкі з Масквы крычаць аб эканамічным хаосе, у якім быццам бы вінавата абвешчаная Гарбачовым перабудова, міжволі думаеш: ці ж не яны і іх прыхільнікі (а ўсе ж мелі вялікую ўладу) імкнуліся дыскрэдытаваць перабудовачныя працэсы, у тым ліку і ў сельскай гаспадарцы? У якасці ілюстрацыі да гэтай думкі, мяркую, можна прывесці такі факт: сярод васьмёркі членаў камітэта па надзвычайным становішчы ёсць і прозвішча Старадубцава — фанатычнага абаронцы калгасна-саўгаснага ладу...

**М. МІХАЙЛАЎ.**

Мінскі раён.

Фота **А. Бірылкі.**

# Фэст у Оршы

1 верасня на Крапівенскім полі ў Оршы адбудзецца фэст беларускай аўтарскай песні, прысвечанай 477 угодкам бітвы пад Оршай. На фэст запрашаюцца прыхільнікі нацыянальнага Адраджэння незалежна ад палітычнай арыентацыі. Тыя, хто будзе мець час і жаданне, змогуць прыняць удзел у пешай вандроўцы Орша — рака Крапіўна — вёска Ляўкі (лецішча Я. Купалы). Збор на аршанскім гарадзішчы а 12.00 31 жніўня. Тэлефоны аргкамітэта фэсту ў Оршы: 2-00-74, 3-33-61, 2-45-42, 2-24-06.

# Зварот грамадскасці

Група пісьменнікаў, мастакоў, вучоных, рэлігійных дзеячаў на мінулым тыдні звярнулася да старшыні Гродзенскага гарвыканкома з просьбай разгледзець пытанне аб вяртанні праваслаўнай царкве Гродзенскага жаночага манастыра Нараджэння Божай Маці. Пабудова адабрана ў вернікаў уладамі ў 1960 годзе.

Сярод падпісаўшых ліст — А. Бембель, А. Кудравец, М. Савіцкі, М. Турбін, А. Федарэнка.





**У пятніцу, 16 жніўня, у касцёле Св. Роха на Залатой Горцы ў Мінску адбыўся парафіяльны фэст. Гучала імша на беларускай мове.**

Фота Ул. КРУКА.

ЧАС І МЫ

# Свабода думкі ці насілле?



Станіслаў ДУБЯНЕЦКІ
кандыдат філасофскіх навук

**Гэтая спрадвечная антынамія не давала і не дае спакою чалавечаму розуму, выклікаючы непераадольнае жаданне хаця б крыху наблізіцца да яе вырашэння, хаця б трошкі аслабіць удары непрадказальнага і драматычнага Лёсу. Ва ўсе часы людзі пакутавалі ад бязлітаснасці абставін і жахлівых хваляў, якія кідалі іх у бездань новых пакут, сацыяльнага і духоўнага прыгнечання. І разам з тым іх ніколі не пакідала вера ў тое, што Дабро здольнае перамагчы Зло, што праз змрочныя краты іх абяздоленага быцця праб'ецца ў рэшце рэшт праменьчык святла і надзеі.**

## Зыходны пункт

Такая надзея неаднойчы сустракала і наш гаротны, спакутаваны і цярплівы народ. Здарылася гэта, скажам, пасля цяжкай і доўгачаканай перамогі над нацыянал-сацыялісцкай тыраніяй з яе блюзнерскімі планамі заняволення ўсяго чалавецтва. Але найбольш блізкай да свайго ўвасаблення гэтая мара здавалася тады, калі ўжо засталіся ў мінулым нягоды сталінска-жданаўскай сістэмы насілля і татальнага падаўлення асобы, яе неад'емнага права на свабоду думкі і перакананняў. Калі пачалі аддаваць даніну памяці ахвярам былых злачынстваў і генацыду, асэнсоўваць антычалавечую сутнасць і тую ж блюзнерскую афарбоўку ўсёпажыральнага ГУЛАГа.

І якое ж расчараванне спасцігла занадта даверлівых людзей, калі яны неўзабаве пераканаліся, што і без сталінскіх гужоў ім немагчыма «людзьмі звацца»! Што ўцалелыя жрацы культу правадыра вельмі хутка пакончылі з хрушчоўскай адлігай, з яго адчайнымі спробамі ачысціць неба ад чорных хмар страху і беззаконня. Што ў адно імгненне яны вынайшлі новыя метады барацьбы з іншадумствам — псіхушкі, ссылкі, забароны на прафесіі, на выезд з краіны і нават тайны абмен дысідэнтаў на савецкіх шпіёнаў за мяжой ці лідэраў заакіянскіх кампартый.

Зыходным пунктам падобных проціпраўных дзеянняў была «ўпэўненасць» улад у тым, што ў нашым грамадстве няма сацыяльнай глебы для прарастання атрутнага насення іншадумства, а яны, ўлады, нясуць асаблівую адказнасць за стан свядомасці грамадзян Краіны Саветаў. І ніякіх, маўляў, зняволеных за перакананні ў нас няма, нікога не праследуюць у судовым парадку за палітычныя погляды і выказванні, адрозныя ад пануючай у грамадстве ідэалогіі. Ёсць толькі нешматлікія выпадкі прыцягнення да адказнасці людзей за дзеянні, якія кваліфікуюцца судом або як антысавецкая агітацыя і прапаганда, або як сістэматычнае распаўсюджванне загадзя ілжывых выдумак, знеслаўляючых савецкі дзяржаўны і грамадскі лад.

## Абясшкоджванне «бомбаў хлусні»

Тым часам работа па своечасовым выяўленні і абясшкоджванні «бомбаў хлусні», як гэта раіў у свой час Ленін, працягвалася поўным ходам і ў масавым маштабе. Адных абвінавачвалі ў закліках да ўзброенай барацьбы супраць існуючага ў Савецкім Саюзе ладу, другіх — у распальванні нацыяналізму і варожасці паміж народамі СССР, трэціх — у парушэнні заканадаўства аб рэлігійных культах або недазволеным рэлігійным выхаванні дзяцей, чацвёртых — ва ўдзеле ў акцыях пратэсту супраць савецкага ўмяшання ў справы Чэхаславакіі і Афганістана.

Сіняўскі і Даніэль, як вядома, адсядзелі працяглыя тэрміны за ананімную публікацыю на Захадзе сваіх літаратурных твораў. Якіру і Красіну не змаглі прышыць нічога «лепшага», як сувязь з НТС. Галіча, Каржавіна, Аўтарханава і іншых разглядалі як штатных служак «імперыялістычнага цэнтра «Свабода», кіруючы камітэт якога, маўляў, з'яўляўся адным з галоўных органаў, накіроўваючых падрыўную дзейнасць супраць СССР і іншых сацыялістычных краін. Недаравальным грахом Максімава лічылі рэдагаванне ім «антисоветского журнальчика «Континент», які быццам бы таксама прэтэндаваў на тое, каб задаваць тон антысавецкім кампаніям.

Над вядомым праваабаронцам Кавалёвым, цяперашнім старшынёй камісіі Вярхоўнага Савета РСФСР па правах чалавека, учынілі судзілішча ні больш ні менш, як за выданне «Хронікі каталіцкай царквы ў Літве» і падпісанне кантракта з замежным выдавецтвам на права распаўсюджвання сваіх матэрыялаў. Ну, а мужнага, прастадушнага генерала Грыгарэнку трымалі ў спецыяльнай псіхіятрычнай бальніцы за тое, што ён дабіваўся вяртання крымскіх татар на сваю гістарычную Радзіму.

А хіба ўкладваюцца ў рамкі элементарнай прыстойнасці, не гаворачы ўжо аб нормах законнасці і маралі, тыя зняважэнні і здзекі, якія выпалі на долю Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава і Аляксандра Ісаевіча Салжаніцына? Хіба вытрымліваюць якую-небудзь крытыку суслаўска-андропаўскія байкі аб тым, што гэтыя людзі выступалі супраць разрадкі міжнароднай напружанасці і міралюбівай палітыкі СССР, дзейнічалі не інакш, як супраць сваёй Айчыны і савецкага народа, насуперак іх карэнным інтарэсам і спадзяванням?

Вельмі цікава будзе нагадаць і аб сапраўднай цане ходкага ў тыя гады тэзіса аб тым, што ў поглядах так званых барацьбітоў за правы чалавека няма нічога свайго, што ўсё гэта спачатку імпартавана, а потым зноў падхоплена буржуазнымі журналістамі і радыёгаласамі і выдаецца за «думку ўнутранай апазіцыі ў СССР».

## Ахвяры кабінетна-прафілактычнай псіхіятрыі

Каля дваццаці гадоў кідалі па турмах і псіхбальніцах нашага земляка, бабруйскага рабочага Міхаіла Кукабаку. І толькі за тое, што ён яшчэ задоўга да перабудовы ўбачыў заганы і зразумеў бесперспектыўнасць таталітарнай сістэмы, адкрыта гаварыў аб гэтым і змагаўся — не, не са зброяй у руках, а словам, маральным учынкам — за ліквідацыю гэтай сістэмы, устанаўленне сапраўднай дэмакратыі і справядлівых адносін паміж людзьмі.

Сотні, калі не тысячы сумленных працаўнікоў становіліся ахвярамі, калі можна так выказацца, кабінетна-прафілактычнай псіхіятрыі. Дастаткова было якому-небудзь неабыякаваму чалавеку напісаць з дзесятак пісьмаў-скаргаў, як з адпаведнага кабінета такім ціхенькім, мілагучным галаскам раілі: «А ці не варта яго старанна абследаваць у клініцы? Мабыць, ён мае вялікую патрэбу ў кваліфікаванай медыцынскай дапамозе? Калі ласка, паклапаціцеся аб чалавеку, дапамажыце яму». І паслухмяныя лісліўцы з ліку падначаленых чыноўнікаў або непасрэдна галоўных урачоў гарадскіх ці раённых бальніц, неадкладна кідаліся на «дапамогу» гаротнікам.

Такога «бацькоўскага клопату» быў удастоены і мой школьны настаўнік мовы і літаратуры Міхаіл Д. З той толькі розніцай, што тэлефонная рэкамендацыя-рэцэпт ішла не зверху ўніз, а наадварот (бывае і такое!) Таленавіты педагог, шчыры і ўважлівы чалавек, ён выхоўваў у нас любоў да роднай зямлі, сеяў у нашых душах зярняты дабрыні і чалавечнасці. А калі пайшоў працаваць намеснікам старшыні калгаса па выхаваўчай рабоце, з такой жа перакананасцю змагаўся супраць безгаспадарчасці, несправядлівасці і беззаконня. Шукаў праўды ў тагачасных кіраўнікоў Брэсцкай вобласці і аднойчы, не знайшоўшы яе, «прыстрашыў» гаспадара вялікага кабінета: «Вось паеду са скаргаю ў Маскву, там разбяруцца!»

І сапраўды «разабраліся»! Не паспеў Міхаіл Васільевіч ступіць на перон Беларускага вакзала, як яго «гасцінна» сустрэлі некалькі чалавек у чорных плашчах, пасадзілі ў машыну і адвезлі... у псіхушку. На некалькі месяцаў, не паведаміўшы нават не толькі калгаснаму начальству, але і бедным жонцы і дзецям. Быў чалавек — няма чалавека! І не шукайце, і не клапаціцеся аб ім — ён цяпер наш, паддоследны аб'ект бясплатнай медыцыны і так званага тэлефоннага права для нязгодных.

Не днямі і месяцамі, а ўжо цэлымі гадамі вымяраўся прафілактычны тэрмін для аднаго з першых скарыназнаўцаў і вяшчальнікаў перабудовы Вячаслава Зайцава. Камусьці не спадабаліся яго лекцыі пра іншапланецян ды НЛА, яго крытычныя выказванні ў адрас «выдатнага палітычнага і дзяржаўнага дзеяча сучаснасці» Л. І. Брэжнева і нават тое, што пісаў слова «Бог» з вялікай літары. Зайцава выключылі з партыі, звольнілі з работы ў Інстытуце літаратуры АН БССР.

Трагічны лёс напаткаў і другога супрацоўніка таго ж інстытута — Міколу Прашковіча. Яго звольнілі за тое, што збіраў грошы для дапамогі ахвярам брэжнеўскіх рэпрэсій на Украіне і ў Расіі, прапанаваў паклапаціцца пра тых беларусаў, якія жывуць за межамі БССР. А літаральна за два гады да перабудовы Прашковіч памёр пры загадкавых абставінах.

Пад неаслабным кантролем абаронцаў парадку знаходзіліся і вернікі розных канфесій. На памяць міжвольна прыходзяць расправы над прыхільнікамі Савета цэркваў евангельскіх хрысціян-баптыстаў або, як тады называлі, раскольнікамі. Разгон мірных малітоўных сходаў, канфіскацыя рэлігійнай літаратуры, магнітафонных запісаў, арышты і турэмныя зняволенні, пазбаўленне правоў на адукацыю і свабодны выбар месца працы — такі арсенал форм і сродкаў адміністрацыйнага ўздзеяння на людзей іншага, чым адміністратары, веравызнання.

Напрыклад, у 1980 годзе жыхарка Брэста З. Я. Вільчынская была звольнена з работы за тое, што, напісаўшы заяву на адпачынак без утрымання, паехала ў Львоў на судовы працэс сваёй веруючай дачкі Галіны. А адзін кандыдат навук, які адкрыта заявіў аб сваіх рэлігійных перакананнях, вымушаны быў пайсці працаваць вартаўніком брэсцкай царквы.

Забароны на прафесіі па рэлігійных матывах часам закраналі і атэістаў, камуністаў і нават... партыйных работнікаў. Так, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Ганцавіцкага райкома КПБ Р. М. Лазіцкі быў вызвалены ад сваіх абавязкаў за ўдзел у пахаванні сваёй праваслаўнай маці па рэлігійным абрадзе. І як ні стараўся Рыгор Міхайлавіч даказаць сваю невінаватасць, у якія б інстанцыі ні звяртаўся — нічога не дапамагло! А на партыйным сходзе, дзе разглядалася яго «персанальная справа», адзін з калег нават упікнуў: «Патрэбна было, убачыўшы святара, завярнуцца і паехаць дамоў, як гэта зрабіў калісьці знаёмы раённы начальнік яшчэ той, сталінскай закваскі».

З пасады дырэктара сярэдняй школы ў сваёй роднай вёсцы «зляцеў» і брат Лазіцкага, таксама камуніст. Невядома, якую меру выхаваўчага ўздзеяння прыдумалі мясцовыя камісары для другога брата — камуніста, які працаваў механізатарам у калгасе. Але можна дапусціць, што і яму прыйшлося зведаць немалыя маральна-псіхалагічныя нагрузкі.

## З каго зрываць маскі?

Такія вось факты. А яны, як кажуць, рэч упартая. І не вельмі хочацца афіцыйна прызнаваць іх, што было б раўназначна прызнанню масавага характару парушэнняў правоў чалавека ў СССР. У тым ліку, зразумела, і права на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі, на свабоду перакананняў і іх свабоднае выяўленне.

Менавіта таму яшчэ і ў нашыя дні моцна рэжуць слых любая інфармацыя ці навуковае абагульненне падобных з'яў. Як гэта здарылася, скажам, калі ў адной даволі «высокай» аўдыторыі былы загадчык сектара партыйнага будаўніцтва былога Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ У. А. Бабкоў сказаў, што за найменшае праяўленне іншадумства чалавека маглі проста кінуць у псіхушку. У адно імгненне са сваіх месц ускочылі намеснік міністра аховы здароўя, пракурор рэспублікі і запатрабавалі ад лектара канкрэтных прыкладаў, а былы старшыня КДБ катэгарычна заявіў, што па Беларусі яму вядомы ўсяго адзін факт змяшчэння ў псіхбальніцу быццам бы па палітычных матывах, але гэты чалавек — Міхаіл Кукабака — быў сапраўды хворым.

І ўсё ж варта прыгадаць хаця б некалькі павучальных штрыхоў з «вопыту» таго масіраванага палявання на ведзьмаў, або таго, як пісаў Яўгеній Еўтушэнка, цэрберызму, які разбураў нашу маральнасць і культуру, пажыраў носьбітаў іх вечных каштоўнасцей і нормаў.

Успомнім, скажам, як ва ўсіх сродках масавай інфармацыі, на ўсіх семінарах, у школах і інстытутах ганьбілі таго ж Салжаніцына — аўтара нерукатворных помнікаў ахвярам сталінскіх рэпрэсій, здзіўляючай сваёй яснасцю і прастатой праграмы маральнага самаачышчэння ўсіх і кожнага. Вялікаму пісьменніку-гуманісту прыклеілі тады столькі ярлыкоў, прыпісалі столькі адмоўных, ганебных рыс і якасцей, што нават не маглі прысніцца самаму таленавітаму раманісту.

Драматызм сітуацыі заключаўся яшчэ і ў тым, што Салжаніцына крытыкавалі нават некаторыя з тых, хто, як і ён, асабіста зведаў пакуты ГУЛАГа. Хто знемагаў ад голаду і непасільнай працы ў савецкіх канцэнтрацыйных лагерах. Хто кожную раніцу назіраў новыя штабелі трупаў зняволеных. Хто стагнаў ад болю і крыўды і сам сябе супакойваў, што гэта недарэчнасць, што не можа, не павінна быць такога ў нас.

Міласцівы Бог, мабыць, дараваў гэткі грэх Барысу Дзьякаву, які да таго ж, калі верыць прэсе, пад удушальным уздзеяннем «яжовых рукавіц» згадзіўся стаць сексотам НКУС. Але апісаныя ў яго «Аповесці аб перажытым» жудасныя карціны тэрору і вытанчаныя прыёмы катавання людзей даюць багаты матэрыял для разважанняў аб несумяшчальнасці сталінскай мадэлі жыццеўладкавання з дэмакратыяй і свабодай. А таксама аб аб'ектыўнай патрэбнасці ў поўным (!) аб'ёме аднавіць гістарычную справядлівасць, у тым ліку і ў адносінах да непасрэдных распрацоўшчыкаў і выканаўцаў «інструкцыі смерці». Нездарма адзін з герояў названай аповесці Гуральскі, старшы навуковы супрацоўнік Акадэміі навук СССР, аднойчы вымавіў: «Наступае, па выразу Леніна, час зрывання ўсіх і ўсялякіх масак». Напэўна, ім, гаротнікам, і сапраўды тады здавалася, што неўзабаве скончацца гэтыя здзекі, што хутка ўсе даведаюцца пра іх мучыцеляў — наглядчыкаў, начальнікаў турмаў і лагерных пунктаў, пра тых, хто натхняў дамарошчаных карнікаў і забойцаў. Але словам гэтым, як бачна, не суджана было збыцца. Дзякуй Богу, што хоць працягваецца работа па рэабілітацыі саміх ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

Што ж датычыць «зрывання масак», то да выкрытых у хрушчоўскія часы некалькіх вышэйшых энкавэдзістаў практычна не дададзена ніводнага новага прозвішча. Затое і цяпер, у перабудовачныя гады, шырока выкарыстоўваюцца апрабіраваныя метады «зрывання масак» з палітычных апанентаў, з тых, хто здольны прапанаваць і зрабіць штосьці добрае, цывілізаванае, прагрэсіўнае.

## Пошук «ворагаў» працягваецца

Чарнобыльскай вясной 1986 года па Мінску пракацілася чутка аб «справе» маладога Бембеля, сына вядомага скульптара, народнага мастака Беларусі. Аказваецца, на Захад трапіў рукапіс яго кнігі, складзенай з інтэрв'ю-разважанняў дзесяткаў людзей аб лёсе нашай роднай мовы, яе занядбанні ў БССР, аб неабходнасці надаць ёй статус дзяржаўнай.

І зноў... заявіла аб сабе тое самае «тэлефоннае права». Кнігу забаранілі друкаваць у мясцовых выдавецтвах, Алега Бембеля выключылі з радоў КПСС, пазбавілі работы. Застаецца толькі спадзявацца, што пасля прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце і Закона аб мовах у Беларускай ССР людзі, якія мелі дачыненне да гэтых акцый, зразумелі сваю

(Працяг на стар. 12).

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ




# ПЕРАЖЫТАЕ

Кнігі, у якіх апісваюцца падзеі, што адбываліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі нашай рэспублікі, выходзяць у многіх выдавецтвах краіны. Вось і нядаўна ў Адэскім выдавецтве «Маяк» выйшла кніга пісьменніка Дзмітрыя Дзерача «Від Орші до Німану».

Аб дакументальнасці яе сведчыць аўтарскае прысвячэнне: «Таварышам-сябрам інжынерных і дарожных часцей 3-га Беларускага фронту, якія пракладі дарогу для наступлення на Мінск у 1944 годзе». Ды і ў прадмове «Да тых, хто ваяваў на 3-цім Беларускім» Д. Дзерач зазначае: «Пад уласнымі імёнамі дзейнічаюць камісар Салаўёў, старшы лейтэнант Якаўлеў, яфрэйтар Баннікаў, старшына Гаўрылін, повар Голікаў, радавы Гусеў і іншыя».

Разам з тым пісьменнік не адмаўляецца і ад мастацкага домыслу, асабліва калі імкнецца паказаць гераізм савецкіх воінаў у барацьбе з фашызмам. «Зборным» атрымаўся, напрыклад, вобраз галоўнага героя аповесці капітана Яркава. Пэўная хранікальнасць твора не перашкаджае аўтару праўдзіва паказаць чалавека на вайне, зазірнуць у яго душу.

У аповесці «Ад Оршы да Нёмана», вядома, толькі асобныя эпізоды барацьбы з фашызмам, але і яны дапамагаюць у многім зразумець, якой складанай была дарога да Перамогі і якой вялікай цаной за яе заплачана.

А. М.

БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Пятро ВАСЮЧЭНКА

# ТРЭЦІ КІТ САЦРЭАЛІЗМУ

## Палемічныя нататкі

Тры кіты — партыйнасць, класавасць, народнасць літаратуры; на іхніх спінах — чарапаха сацыялістычнага рэалізму. Першыя два кіты, як мне бачыцца, ужо няздольныя везці на сабе чарапаху, бо самі патанаюць. І калі можа падацца, што чарапаха працягвае плыць, хай сабе й бокам, няўклюдна, дык гэта дзякуючы трэцяму кіту. Бо ён, трэці, як быццам замоўлены ад гарпуноў найноўшае крытыкі магічным словам «народ».

Даруйце, што я цягну ў літаратурную палеміку вобраз з барбарскай, дапатопнай касмагоніі. Я не збіраўся нічога спрашчаць: тое, пра што кажу, немагчыма выпрастаць болей, чым яно ёсць. Догма ў навуцы — гэта і ёсць істае барбарства. Піетэт, неруш, якія ўтварыліся вакол догмы,— не ёсць чым іншым, як грубым, першабытным чарадзействам.

Прынцып народнасці мастацтва абвяшчаўся як абсалютная, звышстаноўчая якасць — і гэта давала нагоду для жахлівай антаніміі. Поруч з «народнымі» творамі павінны былі існаваць і «антынародныя» — прынцып не цярпеў паўтонаў, мяккіх пераліваў, інакш бы ён і не быў прынцыпам. Не адно творы, але й творцаў разлучыла жорсткая, смяротная рыса. Мы ведаем, чым абярнулася гэтая селекцыя пад час абвяшчэння прынцыпаў «сацрэалізму» — катаваннямі, знішчэннем «ворагаў народа». У тым ліку й пісьменнікаў — аўтараў «антынародных» твораў.

Антынароднымі маглі быць абвешчаны творы дэкадэнтаў і мадэрністаў, узоры сацыяльнай сатыры і жорсткага рэалізму, шэдэўры інтэлектуальнай прозы і рэлігійнай паэзіі... Усё, што не адпавядала аднаму з крытэрыяў «народнага» твора; гэты крытэрый — даступнасць. Мастацтва павінна «служыць» народу, павінна «даходзіць» да шырокіх працоўных мас. Адваротны рух — ад масавае свядомасці да вяршыняў інтэлектуалізаванага мастацтва — выключаўся. Тэорыя замацавала гэтае правіла ў выглядзе закасцянелае догмы, практыка працягнула змест яе да лагічнага завяршэння. У выніку мы маем вось што: самае зразумелае шырокім масам, самае папулярнае й даходлівае, а значыцца, самае народнае — гэта маскульт.

Не трэба казаць, што гэтая пачвара прыпаўзла да нас з Захаду. Гома савецікус з аднолькавым імпэтам спажывае французскую «Анжэліку», бразільскую «Рабыню Ізаўру», індыйскую меладраму або савецкія прыгоды Будулая. Хай сабе, я ж не супраць. Але я супраць «народнасці» мастацтва, трактаванай як яго даступнасць або папулярнасць. Дарэчы, маскульт, кіч, прыгодніцкая літаратура ў лепшых сваіх узорах — гэта мастацтва, яны й творацца з аглядкаю на паважнае мастацтва, шмат што пазычаюць у элітарнае літаратуры. Адмовіцца ад гэтага дзеля чыстае «даступнасці» — і масавы густ імгненна пакоціцца долу.

Я не кажу, што гэта сацрэалізм з ягоным прынцыпам народнасці прывёў да маскульту. Ніякая тэорыя не можа ісці наперадзе мастацкае з'явы, хай сабе тэарэтыкі хоць сто разоў паабяцаюць «стварыць літаратуру, найлепшую ў свеце». Творчыя маніфесты, гучныя мастакоўскія дэкларацыі — гэта таксама вынік ужо асэнсаванага эстэтычнага досведу. Але тэорыя сацрэалізму няздатная й да абагульнення, бо яе прынцыпы ненавуковыя — звышэмацыянальныя, катэгарычныя, безапеляцыйныя. Я казаў пра ўнутраную алагічнасць паняцця «народнасць» — але адсюль пайшлі гэткія ж алагічныя вытворныя, яны трывала ўжыліся ў побыт літаратуры, мастацтва. «Народны пісьменнік», «народны артыст», «народны мастак», «народная капэла». Астатнія, значыцца, «не народныя»? Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Іван Шамякін — народныя, а Уладзімір Караткевіч — не. А Васіль Быкаў? Ці стаў ён больш народным разам з прысуджэннем яму «ганаровага звання»? Ці стаў ён інакшым, чымсь у тую пару, калі пісаў «Круглянскі мост» і «Мёртвым не баліць», калі з «ухвалы працоўных» цкаваліся Салжаніцын і Сахараў, на Беларусі — Быкаў, Карпюк, Адамовіч ды іншыя?

Паміж тым, праблема «літаратура і народ», «літаратура і чытач» — яна ёсць. Спрабую наблізіцца да яе—і ўваходжу ў самую рызыкоўную, самую палемічную зону сваіх нататкаў. Бо яна — вобласць паняццяў, азначэнняў і проста словаў.

Прафесар Праабражэнскі з булгакаўскага «Сабачага сэрца» аднойчы сумна прызнаўся: «Так, я не люблю пралетарыяту». Бо ў слове «пралетарыят» яму бачыліся людзі, якія не здымаюць у памяшканні брудных галёшаў і не ўмеюць карыстацца прыбіральняй.

Гэтаксама, з гэткім жа сумам мушу прызнацца, што не люблю «народ» — калі гэтым словам наракаюць сябе сучасныя швондзеры - шарыкавы - зносакі. Хрысціянская любоў, спагада, літасць — іншая рэч, яе варты кожны чалавек.

Але, ужываючы слова «народ», мы абстрагуемся ад асобных, несімпатычных нам людзей. Ясна, што ў кожнага свае сімпатыі - антыпатыі, некаму падабаюцца й шарыкавы. Такім чынам, «народ» у шырокім ужытку гэтага слова ёсць абстракцыя: яе змест досыць рухомы, зменлівы. Каб вылавіць у гэтай рухомасці штосьць сталае, трэба прыглядзецца, хто найчасцей ужывае гэтае слова.

Перадусім, палітыкі. Часцяком слова патрэбнае ім, каб прамаўляць ад імя аграмаднае, але бязмоўнае масы, якая нібыта не мае языка, каб вымавіць уласную волю. Зрэшты, бясконца ківаць на народ не ёсць прыкмета прафесіяналізму палітыка. Найчасцей, гэта праява вучнёўства або самагіпнозу.

Наступныя — паэты. Тут я бачу пэўную залежнасць: чым вышэй проба паэтычнага таленту, чым глыбей любоў да Бацькаўшчыны й да чалавека — тым менш вершаваных прызнанняў у адданасці народу. Больш патрабавальнасці да сябе ды іншых, гарчэй праўда, якую паэт не баіцца выказваць у вочы.

Нікому з паэтаў гэтак не балела народная бяда, ліхая доля Бацькаўшчыны, як Янку Купалу. Але паэт, як ніхто іншы, адчуваў тую нябачную прастору, што ляжыць паміж паэтам, песняром, прарокам — і народам. Вялікая пакута для паэта — убачыць, што гэтая прастора запоўнена холадам адчужэння, неразумення. Дарма чакаць ад паэта хваласпеву — ягоныя радкі поўняцца найгарчэйшым сарказмам.

У слаўтым купалаўскім вершы Прарок звяртаецца да народа, які

...Свайго на'т імені не знаў,
Як непатрэбшчына якая,
Гібеў на свеце і канаў.

Прарочае слова не пранікае скрозь сцяну адчужэння — у адказ на свой заклік ён чуе:

Па колькі нам дасі чырвонцаў,
Калі мы пойдзем за табой?

У «Сне на кургане» пытанне аб непранікальнасці гэтае сцяны пастаўлена як нідзе востра й жорстка. Гэткі ж бязлітасны прысуд, які выносіць герой сімвалічнай паэмы, Сам, людскому мурашніку:

Людзі!.. Што людзі? Ці ёсць дзе між іх
Годны адзін хоць у людзі:
Мутнасцю, трупам нясе ад усіх,
Пошасцей поўныя грудзі.

Купала не штурхаў свайго Сама ў шыхты мізантропаў, гордых ды адзінокіх самотнікаў, якімі поўнае сусветнае пісьменства. Сам шукае скарб для народа, дзеля прасвятлення змучанае й азлобленае грамады («Ласкай павее тады ад людзей, Неба і цэлага свету»). Але на гэтым шляху чакае пастка, якой Сам з усяе моцы імкнецца ўнікнуць; гэта пагроза страціць уласную адметнасць, с а м а с ц ь, зліцца з людскою масаю. Сам змагаецца з тым, што робіць людзей бязмоўным, паслухмяным, безаблічным натоўпам — з Чорным, нязменныя спадарожнікі якога — цямнота, невуцтва, духоўная слепата.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ЧАСТУШКА, ПРЫПЕЎКА І... СЕГІДЫЛЬЯ

Ёсць прыказка: не ўсім весела, хто спявае. Але ж і тым, хто слухае, не заўсёды бывае весела, нават калі спевы разлічаны і прэтэндуюць на вясёлы смех слухаючых.

Вось выходзіць на сцэну спявачка і пад акампанемент баяніста пачынае спяваць:

**Я надзену бела плацце —**
**Паласа на паласу,**
**Як падыдзе мой міленькі—**
**Я качалкай па насу.**

Што далей, то страшней:

**Я сваю саперніцу**
**Завязу на мельніцу,**
**Там змялю яе ў муку**
**І ляпёшак напяку.**

І ўжо зусім нешта неверагоднае:

**Эх, топнула я,**
**Ды прытопнула я,**
**З'ела цэлага быка**
**Ды не лопнула я... ііііх!**

Не буду спыняцца на музычным суправаджэнні; па-першае, гэтыя нататкі — не музычная рэцэнзія, па-другое—тэксты частушак спяваюцца пад розныя частушачныя матывы.

Адны з іх лепшыя, другія горшыя, але галоўны інтарэс для нас уяўляе не музыка, а змест, таму мова пойдзе толькі аб паэтычных якасцях тэкстаў некаторых песенных жанраў.

Іспанцы прыкмецілі такі парадокс: хто забыў словы, не ўспомніць матыву. Калі гаварыць наогул аб частушачным жанры, перш за ўсё дамовімся—не трэба блытаць, як гэта часта робіцца, рускую частушку з беларускай прыпеўкай (песняй да танца) у яе традыцыйнай народнай першааснове.

Сама назва «прыпеўка» ўзнікла ад слова «прыпяваць». Старажытныя беларускія народныя танцы, а іх дзесяткі, здаўна выконваліся ў суправаджэнні песні (прыпяваліся). Часцей за ўсё, гэта была славутая «Лявоніха», варыянтаў песеннага суправаджэння якой мноства:

**За гародам ці не дуб, ці не дуб,**
**А ў гародзе ці не яблынька?**
**А ты ж мне ці не міл, ці не люб,**
**А я ж табе ці не ладненька?**

Калі сучасная частушка—гэта амаль заўсёды чатырохрадковая страфа, то старажытныя беларускія песні для танцаў маглі быць як чатырохрадкоўем, так і шасцірадкоўем, васьмірадкоўем і г. д.:

**На рэчачцы, ды на дошчачцы,**
**Там дзяўчыначка палошчыцца.**
**Палошчыцца, вымываецца,**
**У чаравічкі абуваецца.**
**Чаравічкі ёй татулька купіў,**
**Каб харошы маладзец палюбіў.**
**А мамачка ёй панчошкі дала,**
**Каб харошая дачушка была.**

Як бачым, гэта была добрая народная паэзія, зусім не тое, што «Эх, топнула я...» Але з'явіўся новы «жанр», які ўсё больш і больш стаў праяўляць сваю самастойнасць і агрэсіўнасць і ўсё шырэй распаўсюджваўся ў розных кутках Беларусі. Гэтае новае веянне (руская частушка) прыйшло да нас (і ў меншай ступені на Украіну) з Расіі. Трэба сказаць, што ў Расіі частушачны жанр развіты і распаўсюджаны неймаверна, пачынаючы яшчэ ад пачатку стагоддзя. Асаблівы інтарэс да частушкі праявіўся ў Расіі ў савецкую эпоху, калі яна стала часткай грамадска-палітычнай агітацыі:

**Не пайду за папа,**
**Пайду за камуніста,**
**Буду з ім без вянца**
**Жыць гадоў я трыста.**

Альбо:

**Эх ты, ах ты,**
**Усе мы касманаўты,**
**На сваёй рабоце**
**Мы даўно ў палёце.**

Сёння ў Беларусі на сельскіх і нават гарадскіх вечарынках амаль не абыходзіцца без частушкі, якую спявае альбо сам танцор ці танцорка, альбо музыкант-гарманіст, прычым у кожнай мясцовасці свае варыянты частушак і адпаведна свая доля пошласці.

У апошнія дзесяцігоддзі, дзякуючы, галоўным чынам, радыё і тэлебачанню, гэты эрзац руска-беларускага фальклору на руска-беларускай мове (трасянцы) настолькі распаўсюдзіўся, што ўжо цяжка бывае адзначыць першакрыніцы, хоць яны наогул праследжваюцца.

Вось яркі прыклад:

**Мая мілка недалёка—**
**За канаваю жывець,**
**Захацела пакатацца,**
**Села ў рэшата—плывець.**

Гэта ж знаёмы рэпертуар вядомых «яраслаўскіх хлопцаў», толькі некалькі перайначаны і перакладзены на «трасянку»!

Вялікі рускі артыст Ф. Шаляпін справядліва лічыў частушку пошласцю. Жанр частушкі, як ніякі іншы, засмечаны рознымі прымітыўнымі, часта нецэнзурнымі вырабкамі. Ад сапраўднага мастацтва гэты эрзац адрозніваецца поўнай адсутнасцю густу і пачуцця.

Дарэчы, сімвалы летаргічнага сну, слепаты, пошасцяў, якія апанавалі народ, былі ў шырокім ужытку многіх паэтаў «нашаніўскае» пары. Таму не гэткія ўжо нечаканыя жорсткія, каляныя радкі «паэта чыстае красы» Максіма Багдановіча; у іх — боль, сорам і спадзяванне:

**Народ! Беларускі Народ!**
**Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.**
**Табою ўсягды пагарджалі,**
**Цябе не пушчалі з ярма**
**І душу тваю абакралі, —**
**У ёй нават мовы няма.**
**Збудзіўшысь ад грознай бяды.**
**Увесь поўны смяротнай жуды,**
**Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»**
**І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.**
**Пачуйце жа гэта, пачуйце,**
**Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!**

Заўважым: слова «народ» тут таксама пэўным чынам абстракцыя; паэт разгарнуў адно тыя рысы народнае псіхалогіі, што выклікаюць смутак і горыч; усё ж светлае святочнае прыхаваў у сваёй душы, ды яно выбліснула-такі—у той вялікай літары, з якой паэт пачаў запаветнае слова. Куды б лягчэй было, здавалася, абстрагавацца ад болю й сораму— і пачаць накручваць вакол гэтае вялікае літары саладжавыя радкі хваласпеву, няшчырага пафасу...

Зрэшты, гэтак шмат кім і рабілася. Раскквечваліся паэтычныя метафары, разгортваліся шматметровыя лозунгі, пяяліся палітычныя «алілуі» — у гонар народа... І вось, па заганным прынцыпе, пад уздзеяннем гэтых заклінанняў, хтосьці іншы, не паэт і не палітык, пачынае выступаць так, быццам ён і ёсць увесь народ, быццам гэта ягонае асабістае імя выдрукавана з вялікай літары... Гэты апошні сваю далучанасць да народа і сваё права казаць «я — народ» бачыць у сваёй жа неадукаванасці, недасведчанасці. Чым меней ведаў, чым менш прачытана кніг — тым болей пыхі, свайго роду мазольнага снабізму («Я на іх рабіў, а яны кніжкі чыталі»). Логіку й прыроду гэтае з'явы цяжка вылічыць: тут свая алагічная, перакручаная шкала антыкаштоўнасцей. Тут у пашане самапрыніжэнне й звычка да рабства («Сталіна нада»), нацыянальны нігілізм ды амаральнасць («нінавіжу біларускі язык»).

Што лепш — рабскае маўчанне або гаманкое, агрэсіўнае рабства? І першае, і другое — сімптомы аднае хваробы. Вялікі грэх на тым, хто тварыў з гэтае хваробы культ, хто ўсхваляў «прастасць» ды «мудрасць» чалавека з натоўпу. Грэх спекуляваць на недасведчанасці, цямноце.

Мастак ад Бога інтуітыўна адчувае небяспеку граху, і таму ўжывае слова «народ» не часцей, чым «людзі», «людства», «грамада». Для «люду паспалітага» перакладаў вечную Кнігу Францішак Скарына, гэта значыць, для добрых, рахманых, набожных людзей. Чалавека, людства можна й трэба любіць ужо дзеля таго, што, як вучыць вечная Кніга, чалавек ёсць Боскае тварэнне; што людзі адвеку паміж сабою браты й роўныя перад Богам. А не таму, што «Чалавек — гэта гучыць ганарова». «Чалавек» гучыць ніяк; само слова ні да чаго не абавязвае.

Гэтага я не сказаў бы пра слова «народ»; якаясь магія змушае схіліцца перад ім, прызнаць ягоную неаспрэчную станоўчасць. Але пойдзем да канца: спрабуйма спасцігнуць, наколькі гэта магчыма, вытокі гэтага магічнага ўздзеяння. Мы спыніліся на тым, што слова ёсць абстракцыя, што змест ягоны шматзначны й зменлівы; застаецца давесці, што гэтае паняцце — зборнае. Будзем пакрысе вызваляць змест паняцця ад тых простых складаных, якім лёгка падабраць сінонім у выглядзе іншых простых ды нейтральных па змесце словах.

Прыкладам, «насельніцтва». Дзеці й пенсіянеры, паэты й вайскоўцы, вар'яты й злачынцы — усе, хто падпадаюць пад перапіс.

Або «нацыя» — тэрмін, у якога мноства навуковых і ненавуковых трактовак, часам супярэчлівых, непаслядоўных. Але ёсць рэчы, якія не заблытаюцца ў самай хітрамудрай казуістыцы: мова, этнас, генафонд, нацыянальны характар. У нейтральных — аптымальных — варунках гэта таксама паняцці нейтральныя. Лёс беларускае мовы не выклікаў бы ў нас гэтулькі адмоўных эмоцый, болю, каб гэтая мова жыла паўнакроўным жыццём. Мы проста не зважалі б на мову, як не зважаем на паветра, якім дыхаем. Тое ж і ў дачыненні да нацыяў: яны розныя, бо розныя этнасы, нацыянальныя характары. Характары складаюцца з нейтральных, прыемных ды малапрыемных рысаў; сума складаных прыблізна аднолькавая, ізноў нейтральная. Таму ў нармальных, людскіх варунках ніхто не будзе захапляцца чалавекам адно таму, што ён армянін, расеец, цыган або беларус.

Спрабавалі прыўзняць, апаэтызаваць ды ўзвесці ў ранг паняцця слова «працоўныя». Але ж вылучаць як абсалютна станоўчую якасць чалавека тое, што ён працуе,—нонсенс. Я, ты, ён, яны працуюць — будзем пяяць адно аднаму дыфірамбы? Самі сабе? А хто пахваліць дзетак, пенсіянераў, студэнтаў, калек? Яны не працуюць. Аднак я разумею тых, хто націскае на слове «працоўныя»: націск звычайна робіцца на фізічнай працы, на аддзяленні «простых працоўных» ад гультаёў, то бо інтэлігентаў. І тут цяжка вызначыць, каго больш прыніжае гэты падзел — першых або другіх.

Не буду анатаміраваць астатнія паняцці-словы-вызначэнні — «класы», «сацыяльныя групы», «работнікі», «сяляне», «вернікі» ды г.д. Па вялікім рахунку ўсе гэтыя словы пазбаўлены эмоцыі, прынамсі — тае магіі, якой нас гіпнатызуе слова «народ».

Такім чынам, «народ», як слова зборнае, раскладаецца на нейтральныя, элементарныя паняцці. Але раскладаецца не да канца! Ясна, што ўвесь пафас, уся магія слова застаюцца ў гэтай рэшце.

Што ж застаецца?

А вось: тое, што няможна выказаць праз навуковыя, лагічныя катэгорыі; яно сатканае з таго ж няўлоўнага рэчыва, што й паэтычныя метафары, лятункі, сімвалы, намёкі на «нешта», «безназоўнае». Мы наблізімся да гэтага безназоўнага, калі згадаем пра пачуццё крэўнасці, еднасці; пра неўміручы народны дух; пра вернасць Бацькаўшчыне, матчынай мове, магілам продкаў. Рэчыва, з якога сатканыя гэтыя пачуцці, трансцэндэнтнае, напаўмістычнае. Але якраз яно павінна знітоўваць, мацней чымсь якая цамянка, людзей, людства — як народ.

Аднак у тым жа й наша бяда, што рэчыва пачало распадацца. І першым паддаўся распаду інстынкт самазахавання — тое, што не дае ўмерці народу, яго этнасу, мове, культуры, генафонду. Распад пачаўся не сёння — па сваім часе ён ішоў паралельна з абвяшчэннем прынцыпу народнасці ў літаратуры, а ў сацыялогіі — новай людскай супольнасці «савецкі народ».

Новыя «паняцці» таксама былі абстракцыямі; звонку яны захоўвалі тыя ж узнёсласць, піетэт, якімі надзялялася старое слова «народ». Пагледзім, ад чаго абстрагаваліся стваральнікі квазі-паняццяў: ад нацыянальнае спецыфікі народаў, ад іхняга права на развіццё ўласных моў, дзяржаўнасці, ад рэлігійнасці. Пачуццё крэўнасці, духоўнае еднасці не ўлічвалася зусім, як нематэрыяльнае. Народам наракалі штосьці аморфнае, выпрастанае пад шнур у часе фізічных ды ідэалагічных рэпрэсій ад Бярэсця да Уладзівастока. Кананізаваліся аднадумства, адзінамоўе, адзінаверства (у партыю) ды адзінабязвер'е (бязбожжа).

Мы ганарыліся нашымі хваробамі. А хваробамі нельга хваліцца. Іх трэба лячыць, і лекі мусяць быць горкімі. Бяздумныя заляцанні з народам і «народнасцю» нікога не вылечаць. Лечыць праўда. І яшчэ: мы не вылечымся, калі заўсёды будзем бясконца давяраць арыфметычнай большасці.

Сумнявацца ў большасці не значыць сумнявацца ў народзе. Маё сэрца з тымі, хто адчуў унутраную прагу «людзьмі звацца». Хто павёў сваіх дзетак у школу, дзе яны будуць вучыцца на матчынай мове. Хто сам, ці не ўпершыню за дзесяткі гадоў, пачаў звязваць сказы й думкі на роднай мове.

Але я не буду спяшацца пераносіць на гэтую меншасць запаветнае слова «народ». Бо неўпрыкмет прыйду да тае ж самае заганнае антаніміі, ад якой засцерагаў напачатку. Бо ў мяне спытаюцца: а хто ж астатнія? А я б не хацеў, каб адказ на гэтае пытанне вымавіўся з жорсткай, бальшавіцкай еднaзначнасцю.

Падлік, які дапамог бы вызначыць большасць і меншасць, — акт разавы, часовы. Паняцце ж «народ» бязмежна разгорнута ў часе, яно і ў былым, і ў будучыні. Ды яшчэ, значнай часткаю сваёю — у сферы нявыказанага, трансцэдэнтнага. Дарма, што паняцце ў такім тлумачэнні губляе сваю «паняційнасць». Хай сабе будзе й недасяжным лятункам, адвечнай паэтычнай метафарай. Затое цяпер яно ахопіць людскую лучнасць ад світанку й «залатога стагоддзя» — да няспраўджанай пакуль будучай Беларусі. У такім выглядзе народ будзе ідэальнай, неарыфметычнай большасцю.

Таму я не стаю за тое, каб аднаўляць паняцце народнасці ў літаратуры шляхам перакульвання — мяняць ягоны рэальны жыццёвы субстрат, надбудоўваць над ім «абноўленую» ды па-старому катэгарычную нягнуткую абстракцыю.

Літаратуры няма патрэбы заўсёды выказвацца «ад імя народа». Бо яна, паводле свае прыроды, кажа ад імя мастака, пісьменніка, творцы — да народа. Калі літаратура развіваецца нязмушана, калі на яе шляху не стаяць цэнзурныя або якія іншыя неадольныя перашкоды, — яна спакваля назапашвае ў сабе тыя станоўчыя рысы, што адпавядаюць этычным, гуманістычным, рэлігійным — народным уяўленням аб літасці, любові, спагадзе, справядлівасці і г.д. Можна было б аб'яднаць гэтыя якасці пад шыльдаю абноўленае «народнасці» — але навошта таўталогія? Паняцце, на момант тоеснае сабе, праз хвілю стане нятоесным — і ўрэшце абернецца абноўленай догмай, тормазам для літаратуры.

Цяпер: што лічыць вольным, нязмушаным рухам літаратуры? Калі мы даведаемся, што літаратура развіваецца натуральным шляхам, робіцца цалкам адпаведнай свайму прызначэнню?

Тады, калі твор, які нараджаўся як «элітарны», твор для выбраных, — зробіцца творам для многіх, «бестселерам» — на мове рынку, «народным» — на мове тэорыі сацрэалізму.

Тады, калі гэты працэс стане бесперапынным і паслядоўным.

У дачыненні ж да беларускай літаратуры мы адзначаем штосьць адваротнае: яна суздром і надоўга элітарная. Літаратура для адзінак — сведамых беларусаў, дзівакоў, летуценнікаў, літаратуразнаўцаў, нефармалаў, адраджэнцаў... Літаратура беларускамоўных аазісаў, выспаў, дыяспараў.

Сумна. Аптымісты шукаюць суцяшэння ў параўнаннях, мадэлях, якія адбіваюць цыклічную хаду гісторыі. Адна з такіх мадэляў—пясочны гадзіннік. Паколькі мы жывём у перакуленым свеце, чужыя паміж сваімі, самотныя тубыльцы з матчынай мовай у вуснах — дык чакайма, пакуль нехта перастравіць пясочны гадзіннік гісторыі з галавы на ногі...

Але ніхто не ведае, на колькі стагоддзяў заведзены пясочны гадзіннік. Таму спрабуйма штосьць рабіць — а пясок хай сабе сыплецца. Спрабуйма тварыць — не дзеля «прынцыпаў», «тэорыяў» — а для літаратуры, для люду паспалітага.

---

Паколькі мы, беларусы, народ еўрапейскі і нам трэба ведаць, як і што спяваюць не толькі на ўсход, але і на захад ад нас, таму я пашукаў у еўрапейскім песенным фальклоры аналагаў нашай частушкі. І знайшоў. Гэта іспанская сегідылья, дзе спявак (кантаор) спявае паэтычны тэкст пад гітару, часта ў суправаджэнні танцоўшчыцы з кастаньетамі. Але сегідылья (ёсць у яе і іншыя назвы: сегірыйя, плайера) падобная да частушкі толькі ў тым, што тут таксама некалькі радкоў тэксту і музычнае (гітарнае) суправаджэнне. У астатнім іх раздзяляе бездань.

Параўнанне сегідылы з частушкай вельмі ўмоўнае, як параўнанне, скажам, трагіка са скамарохам.

Ёсць у іспанскім фальклоры славуты андалузскі стыль кантэ-хонда (глыбокае спяванне), пра якое вялікі іспанскі паэт Ф. Г. Лорка казаў: «глыбей усіх калодзежаў свету». На кантэ-хонда выхоўваліся вялікія андалузцы XX стагоддзя Мачада, Хіменес, Фалья, Пікаса, Лорка...

Паспрабую параўнаць, як кажуць, непараўнальнае. Я ўжо казаў, што сегідылья падобная да частушкі сваім кароткім тэкстам і музычным суправаджэннем. Аб сегідылі мы ведаем вельмі мала, бадай, толькі тое, што яе спявае цыганка Кармэн у першай дзеі аднайменнай оперы Бізэ. Але ж оперная сегідылья — гэта зусім не тое, што сапраўдная сегідылья ў выкананні андалузскага спевака. Вось прыклады сегідылы ў яе чыстай першаснове:

**Паміраць я буду,**
**У час апошняй мукі,**
**Гэтай пасмай, пасмай сваёй чорнай**
**Павяжы мне рукі.**

(Тут і далей пераклад мой.— **А. Ц.**).

Альбо:

**Што са мною стала,**
**Мама мая, мама,**
**У якое ні гляджу люстэрка —**
**Сыходзіць амальгама.**

Рытмічная асаблівасць сегідылі—падоўжаны трэці радок; пры спяванні яго разбівае доўгая кадэнцыя—гэтую цэзуру кантаоры называюць «la caida».

Асаблівую спружыністасць надае сегідылі рытмічны перабой— знак неразлучнага з ёю танца.

Традыцыйная сегідылья — чатырохрадковая, як і частушка, але і гэтая кароткая страфа здалася доўгай нецярпліваму іспанскаму густу. Узнікла трохрадкоўе, падобнае да японскага хоку:

**Той ноччу зорка свяціла**
**І ўбачыў я, як магільшчык**
**Капае магілу.**

Сегідылья — царыца кантэ-хонда. «Ні адну іспанскую песню нельга параўнаць з яе паэтычнай веліччу, — гаварыў Гарсіа Лорка,—і рэдка, вельмі рэдка чалавечы дух тварыў з такой стыхійнасцю».

Наогул кажучы, «глыбокае спяванне» адметнае перш за ўсё тым, што вельмі ўжо складанае ў ім само паняцце «незбавімасці пакуты»:

**Мяне дзеля сустрэчы**
**Лёс беражэ жывою,**
**А то б даўно я ў полі**
**Расла травою.**

Альбо:

**Забудзь, што была са мною,**
**Забудзь, што мяне любіла,**
**Скажы: я кахала камень**
**І хваляй той камень змыла.**

Згадзімся,—гэта зусім не тое, што «Эх, топнула я...» Таму, мабыць, так фанатычна любяць іспанцы, асабліва андалузцы, незразумелую і дзікую, на наш погляд, карыду, што ў гэтага народа вельмі абвостраны, амаль паэтычны інтарэс да вечна жывой загадкі смерці:

**Звон начны астрожны**
**У цішыні квартала,**
**Ты апавясці маёй матулі,**
**Што мяне не стала.**

Пошласць і прымітыўнасць тэксту ў кантэ-хонда немагчымыя, яны б проста ў ім не затрымаліся і не прыжыліся. Сегідылья, гэты старажытнейшы жанр іспанскага фальклору, пакінуўшы родныя горы Андалузіі, амаль што з першымі канквістадорамі перасекла Атлантычны акіян і назаўсёды ўвайшла ў песенную стыхію Лацінскай Амерыкі. Мабыць, таму сучасная, так званая «масавая» культура, запаланіўшая амаль увесь свет, менш за ўсё закранула Іспанію і іспанамоўную Лацінскую Амерыку, што песенны фальклор там найвышэйшай пробы і якасці. Ёсць там што спяваць і апрача «цяжкага жалеза».

Хочацца задаць наіўнае пытанне: чаму ж наша сучасная моладзь аддае яўную перавагу рок-музыцы, а не частушцы ці «масавай» савецкай песні? Мне здаецца, уся справа ў тым, што, выбіраючы паміж частушкамі, сучаснымі камсамольскімі песнямі і «хэві-металам», моладзь па сваёй прыроднай інтуіцыі выбірае найменшае зло—«хэві-метал».

«Цяжкае жалеза» хоць і нельга назваць высокім мастацтвам, але ж яно і не прэтэндуе так настырна на нейкую бясспрэчную ісціну, як гэта робяць некаторыя савецкія «масавыя» песні, а тым больш частушачныя агіткі.

Знакаміты іспанскі фальклярыст Антоніа Мачада-і-Альварэс некалі сказаў: «Хочаце пазнаць народ? Вучыцеся яго песням». У беларусаў багаты фальклор, толькі трэба ўмела ім карыстацца. І чым хутчэй мы забудзем частушачны сурагат, тым лепш будзе для ўсяго нашага песеннага фальклору.

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ.**

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ



## Дзень нараджэння дарогі

У дзень нараджэння дарогі
трава пад нагой памірае,
І гасне кароўка божая
пад колам — нібы сляза.
І нават пан Бог гаворыць:
«Хай сёння сам выбірае
Мой раб напрамак да волі,
што смерцю волю назваў».
У дзень нараджэння дарогі
дрыжаць нябачныя зоры:
Якой давядзецца згаснуць,
якую возьмуць з сабой
Заместа лампады людзі,
што моваі звяроў гавораць,
Што мовай дажджоў гавораць
і зброяй, даўно нямой.
У дзень нараджэння дарогі
дзівяцца лёзныя людзі:
Адкуль злятае пад ногі
раз-пораз крылаты цень!
А гэта крыжоў прадвесце,
што ўздоўж дарогі збудуюць,
І душы раскрыжаваных,
ненароджаных шчэ людзей.
У дзень нараджэння дарогі
ніхто прадказаць не можа
Дабра і зла суадносіны,
што ў час народзіць яна.
А людзі стамлёна тупаюць,
бяздомныя ў доме божым,
І топчуць траву звінячую,
і лёс вырашаюць наш.

## Мой дом

Там, дзе мая любоў,—
там вера і надзея.
Без болю прабачаць
вучуся пакрысе,
Хоць на руках маіх —
халодны пыл музеяў,
Таму што забываць
сяброўства — здольны ўсе.
Не свята мне — жыццё,
але бываюць святы.
І што было святым,
святое мне й цяпер.
Няхай дзіця маё
не вырасце крылатым —
Жаданым будзе жыць,
з даверам — на давер.
Няма куды ўцячы
нам ад зямной атруты,
І дом наш — БЕЛАРУСЬ,
хоць там стаіць труна.
І я ў любові — ёсць,
таму і ў шчасці буду,
Не на зямлі —
дык там,
дзе ёсць любоў адна.

## Пакаленне

Так мала чытачоў,
І тыя ўсе — паэты.
Л. ГАЛУБОВІЧ.

Паніжэла наша вышыня.
Дзень не здзейсніў ні адной надзеі.
Срэбны рыцар прытрымаў каня,
І з анёлаў пер'е абляцела.
Як прыгожа гаварылі мы!
Як мы ганарыліся сабою!
Што цяпер наперадзе!
Тамы
Вершаў, накляпаных з перапою!
Хтосьці ўладкаваўся стукачом,
Хтосьці зараз — крамнік,
хтось — палітык.
Ну а вершы прыкрашаюць дом,
І блішчаць прад людам паспалітым.
Беларусь, крыжы ды Беларусь —
Бы ў адной хрысціліся купелі.
Маладосці лёгкі землятрус —
І з анёлаў пер'е абляцела.
Пакаленне лірнікаў блатных,
Сумесь Караткевіча і Ніцшэ...
Хтось бліжэй — да злосных і п'яных,
Хтось — да тых, што прэміяльна пішуць.
Цынікі... Святыя...
Божа мой,
Колькі раз сябе мы не пазнаем,
Шлях звянчаўшы тронам ці турмой.
Пішам, пішам, пішам... Не чытаем.

## Падпольны хрысціянін-85

Хрыстос — у сэрцы...
А нацельны крыж
Схаваны пад кашуляю надзейна.
Калі улады хваляць — ты маўчыш,
І подзвіг нематы высока цэніш.

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ



Уладзімір Лінскі

# Васіль Райчын

**Пішу пра людзей маёй вёскі Шоўкавічы. Гэта маленькае паселішча на Палессі не абмінулі ўсе беды нашага супярэчлівага часу. Да болю шкада: старэе, вымірае вёска, дзічэе зямля без гаспадароў. АЎТАР.**

ВАСІЛЬ Манін — так завуць па маці.

Васіль Райчын — так завуць па жонцы.

Ніхто не скажа, што ён Колеў, бо таго Колю мала хто помніць. Як пайшоў на фронт па першай мабілізацыі — ні слыху, ні дыху. Сама Маня мала што помніць:

— Мы з ім адну вясну любіліся. Я кароў даіла, коней, цялят даглядала. Лячыла іх, мазала мазямі ад лішаёў, дай сама ад іх набралася такога дабра. Прыключылася на твары «красная ваўчанка». Папалячылася, няма чаго й казаць... Тым-сім спрабуем — хужэй. Іншым чым — хужэй... У Мінску цэлы год была. Куды толькі ні ездзіла. Ай, усю маладосць прахварэла. Так і жыццё прайшло...— Маня сарамліва пачырванела, бачу, у нечым хоча прызнацца, урэшце адчаілася.— Прыйду на танцы, усе гарцуюць, а я сяджу на лавачцы. І Коля са мной сядзіць. Вось і выседзелі Васілька. Мая адзіная радасць у жыцці...

Васіль усім удаўся: ростам, сілай, характарам. У яго і гаворка нейкая асаблівая, словы як бы выкоўвае на кавадле. Не спяшаецца сказаць, а як прыпячатае — якраз у кропку. У яго і смех свой, нейкі ўнутраны, толькі па вачах і бачна, што смяецца. У яго і адмеціна пад вокам асаблівая — ланцужок конскіх зубоў.

У вайну ў Шоўкавічах быў конь. Называлі — Куслівы. Казалі, нямецкі конь. Мясцовай мовы не разумеў, таму і кідаўся кусацца.

Аднаго разу пагнаў Васілёк з Віцем Антонішыным пасвіць свіней. Бачаць, конь траву скубе. Васілёк ухапіў дубчык, падбег да каня: «Но!» А той адвярнуўся ды — цап хлопчыка за твар і адпіхнуў ад сябе. Віця большы быў, ухапіў на рукі малога і панёс да маці. А тая ледзь не абамлела, як убачыла Васілька ў крыві.

Доўга лячылі яго. Уся вёска перажывала за Васілька. Як маглі падтрымлівалі і маці. Вось і засталася адмеціна на твары. З вайны. Ад нямецкага каня...

Адметны Васіль і ў сям'і. Жонка называе яго — Слязінкай. Ледзь што — праслязіцца. Ці то жаласлівае вычытае, ці ўбачыць што трагічнае ў тэлевізары, ці пачуе пра якую бяду — блізка да сэрца прымае.

Васіль, праўда, у даўгу не застаецца перад жонкай. Яе дзявоцкае прозвішча — Верабей. Дык Васіль яе называе мой Канаплянічак. Кажа:

— Каб маю Райку салам абмазаў, дак яе кот бы з'еў...

Гэта што яна маленькага росту ўдалася. А сам ганарыцца жонкай. Прыгледзеў яе, як з арміі вярнуўся. А яна яшчэ вучаніцай была. На адной вясковай гулянцы падаў старому Вераб'ю руку:

— Вашу Райку вазьму, як школу закончыць.

— От і добра. Жаніх на ўсе сто!..

Тры гады чакаў. Адразу пасля выпускнога вечара згулялі вяселле. Прывёў у матчыну хату, пачалі ў згодзе жыць. А як дзеці пасыпаліся адно за другім, усяго пяцёра, дабудаваў трохсцен.

З гонарам паказваў мне сваю прасторную хароміну. Падвёў да спальні, таямніча падміргнуў:

— Наш рабочы пакой. Тут дзеці завязваліся. У трактарыста ноч кароткая — позна лёг, рана ўстаў. Трэба хуценька спаць...

У Шоўкавічах некалі было ажно сем трактарыстаў. Прыгожа! Па ўсёй вёсцы трактары стаялі. У каго з пагрузчыкам — угнаенні возіць. У каго з плугамі — арэ. У каго з культыватарам — поле абрабляе. У каго з касілкай — па сенажацях ездзіць.

Тры трактарысты памерлі — Міша, Валодзя, Шура. У Колькі правы забралі назаўжды. Двое — перабежчыкі, зманілі іх у іншыя гаспадаркі. Васіль Манін — самы цягучы. На трактары ўжо трыццаць пяць гадоў. І толькі ў Шоўкавічах!

Сядзім у яго хаце на канапе, Васіль і гаворыць:

— Знаеш, куды вароне ні ляцець, усё роўна г... кляваць. Вырашылі з Райкай — з Шоўкавіч нікуды, ні на крок. Хоць будуць зваць міністрам у Маскву — не паеду. Усюды рабіць трэба. Не паробіш — не паясі. Не пасееш — не пажнеш...

Васіль адлучаўся з дому толькі тры разы. Першы раз на год, як вучыўся на трактарыста. Другі раз — на тры гады і дваццаць дзён, як служыў у арміі. А трэці раз — на два месяцы, як ляжаў у бальніцы. Пра апошнюю адлучку расказвае так:

— Я свой эмтэзэ перабраў рукамі ўжо некалькі разоў. От аднойчы раматаваў дый зваліўся ў жалеззе. Цёмна ў вачах зрабілася, як ноччу. Колька падбег: «Што з табой?» Не чую нічым-нічоганькі. Толькі бачу — нешта ён шавеліць губамі... Ачнуўся, агледзеў сябе — цэлы, сінякоў нават нябачна. А баліць усё — паратунку няма... Прашуся дадому. Колька завёў свой трактар, паехалі. Усю дарогу наўколенцах стаяў у кабіне, інача не мог. Тры дні дома войкаў — не праходзіць. Маці хуткую выклікала. Доктарка — за нагу, а я — на сцяну. О, кажа, у вас пералом. Да за мяне, да — у бальніцу. Дак я там два месяцы пазагараў. А тады яшчэ дома дзевяць месяцаў — на кастылях. І цяпер пазванок ные...

Васіль пачынае пералічваць хваробы, што зарабіў на трактары:

— Гастрыт... Гемарой... Язва... У грудзях — тоны пяску, як у мяне на сотках. Самыя недагледжаныя, бо няма калі. Чорт з імі, дзеці ж не галодныя... Найбольш язва дае дыхту. Як паем і еду, то яна шоргае на ўхабах аб кішкі. Лепш галоднаму ездзіць, лягчэй. На малацэ от і жыву...

За вечар Райка некалькі разоў падлівала малако ў Васілёў кубак. Пап'е, далонню па вуснах, зноў гаворыць. Здаецца, што ні скажа, усё важна, хочацца запомніць.

— Слухай сюды, я раней выпіваў трохі. Ад людзей жа не адграбешся: падмажы ды падмажы. Удружыш каму, а ён чарку налівае. От і кульнеш за здароўе. Бывала, еду дамоў па дубняку, цешча выйдзе на вуліцу, паслухае: «Васілёк п'яны едзе». А як газ у галаве, даеш газу і трактару. От цешча і раскусвала мяне яшчэ здаля,— Васіль зразумеў, што сказаў, нагаварыў на сябе крыху лішняга, дадаў на поўным сур'ёзе: — Слухай, раней усе пілі, перывад такі быў. Судзілі вот міліцэйскіх начальнікаў, зяця Брэжнева. Таксама ж папівалі хлопцы. Ды мо не такую гадасць, як мы... Мільёны мелі. Аднаго толькі не ўцямлю, як можна аднаму чалавеку такія грошы патраціць?.. Я ад цямна да цямна ў полі, без адпачынкаў, лічы, без выхадных. Возьмеш калі выхадны — ляцяць: «Васіль, трэба!.. Падмажы!..» Паехаў. Дак я зарабляю па дзвесце рублёў у месяц, і ніяк ашчадную кніжку не завяду. Каб меў хаця дзве тысячы, я б спакойны быў за дзяцей...

Васіль прыгадвае, як працаваў у МТС, як шчыравалі на калгасных палетках, як верылі ў «светлае будучае».

— Пачынаў прычэпшчыкам на ХТЗ. Вучыўся ездзіць на НАЦІКу. Завод у яго на бензіне, ход — на карасіне. А гаручае вазілі на валах, аж за сорак кіламетраў. І эканомілі. На трактары дамоў не ездзілі, вартавалі ў полі. На Лазовіцы ноч застала — там і ставіш. У Капішчах — значыць, ідуць туды вартаваць... Нават паабедаць не было калі. Маці прынясе ў чыгунку бульбы і, як у той казцы, крычыць: «Сынок, Васілёк, прыплыві к беражку, твая мамка прыйшла, табе есці прынясла...» Сядзеш, хуценька перахопіш і далей памчаў. У радзіве спявалі пра стопудовы ўраджай. Хацелася калі-небудзь убачыць сваімі вачыма... А ў Пажыхары, на лузе, як рабілі? Туды завязуць і тыдзень сухама жывём. У стагу сена начуем. Акачанеў каторы, выпаўзае, раскладвае агонь. Як запасы харчу заканчваюцца — цёпаеш трыццаць кіламетраў дамоў па правізію. У лепшым выпадку каня дадуць. З машынамі заўсёды нявыкрутка. А конь той, хоць забі, ледзь ногі перастаўляе... Было яшчэ як? Дзень робіш на трактары, а нанач брыгадзір дае табе коней перавезці сена для сваёй каровы. От і возіш пры месяцы ясным. Раніцай — на трактар і ў поле. Падумаю, не веру, што ета было са мною, што так укалваў... Доўгі час рабіў на працадні. Пытаю ў дзяцей, што ета такое, — паціскаюць

**Ты Біблії не маеш дзе купіць.**
**На шчасце, ловіць Захад радыёла.**
**Там лёгка верыць.**
**Так, як тут запіць.**
**І ў рокераў Хрыстос — такі вясёлы.**
**Падпольны, мужны хрысціянін наш!**
**Гадоў праз пяць у гэтым дзікім вуллі**
**Крыж будзе — наймаднейшы антураж,**
**А Біблія — ў кіёсках кожнай вулкі.**
**Якім жа невыключным станеш ты,**
**У цэрквах перапоўненых памяты.**
**«Я верую!» — крычаць пачнуць «менты»,**
**Палітыкі і дзеячы эстрады.**
**Ці не пачнеш ты, мой падпольны брат,**
**Шукаць сабе пакутніцтва другога!**
**Калі не крыж —**
**схаваеш аўтамат**
**Ад шэрага натоўпу ды ад Бога.**
**«Я — ісцінны!» — крычы ці не крычы.**
**Дзе кожны верыць — веры не захочаш.**
**А што ж Хрыстос у сэрцы!**
**Ён маўчыць.**
**Ён не жыве з гардыняй грэшнай побач.**

●

**«Ёсць хлеб — і хлеб», — сказаў Хрыстос.**
**А нам**
**Тут чуецца: ёсць — наш і ёсць —**
**замежны,**
**Які абранцам век і век належыць.**
**Ёсць крама — храм,**
**і проста — божы Храм.**
**Мы выбіраем сёння дабрабыт,**
**Далёкі, недасяжны і спакусны.**
**Паеўшы хлеб, прынесены Ісусам,**
**Напечанае ўладамі ядзім.**
**І ўсе адно — світае кураслеп,**
**І дождж збівае спелыя ігрушы.**
**І не крычым: «Ратуйце нашы душы!».**
**Пакуль ёсць хлеб.**
**Які б ні быў — а хлеб.**

## Вечаровая малітва

**І дождж, і снег,**
**і сум адвечны мой.**
**І кнігі бескарысныя,**
**і песні.**
**І час ляціць над мёртваю травой,**
**І па траве слізгаюць хмараў цені.**
**О, рэдкі міг самотнай нематы!**
**Людскія крыўды не вярэдзяць сэрца.**
**І ланцужком астылыя сляды**
**Ідуць з нябыту — шчасцем ён завецца.**
**Настаўнік вышні ў гэты час бліжэй**
**Схіляе лік свой над маім адчаем,**
**Яшчэ малітва, слова — і лягчэй,**
**Хто прабачаў — тым неба прабачае,**
**І мне наверх не страшна паглядаць,**
**І мне не страшна гаварыць з сабою.**
**Як дождж і снег —**
**мае гады ляцяць,**
**І толькі міг малітвы —**
**міг спакою.**

плячыма. А ета тое самае, нібыта мардавацца цэлы год бясплатна. Табе стаяць палачкі-працадні. Што на іх атрымаеш — не ведаеш, ніхто не ведае. Восенню падводзяць вынікі, і, калі што засталося ў свірне ды ў касе, тады і дзеляць астачу на працадні. У мяне іх за год выходзіла да тысячы, а заробак мог змясціцца на адным возе... Але па цяньках ніколі не туляўся. З першай зарплаты, як перайшлі на грошы, купіў будзільнік. Ён аніколі не падвёў мяне... Слухай сюды, як падумаю, дак усе такія дурні былі, як я. Брыгадзірыла ў нас Надзя. Цукеркай звалі. Усе ёй з зарплаты па кілаграму цукерак куплялі. От любіла. А сама доўгая, як грабільна, сухапарая. У кухвайцы хадзіла, у кірзавых ботах. Як шагане — паўтара метра... Раз у мяне дрынкнуў радыятар. Надзі саабшчыў. Дак што ты думаеш, на плячах прынесла з Заходаў тую сэрцавіну. Кілаграмаў дваццаць. Проста ў поле прыперла. Во якая Цукерка! Калі што, трохпавярховага мацюка як загне — лес наўкола вяне. Мы ўсе вельмі паважалі яе. З пустымі рукамі не хадзіла. Лямех які нясе, гайкі, балты. Прыйдзе: «Робіш?.. Што трэба?..» Дзелавая!.. Цяпер дзе сядзець каторы дзве гадзіны, машыны няма — пехам не пойдзе на трактарны стан...

Слухаю Васіля і не верыцца: няўжо гэта той самы смяльчак, адзіны з шоўкаўскай пацанвы, які мог залезці на высачэзны дуб і забраць яйкі ў каршуковым кублe? Ён некалі лазіў і на буслянку. Толькі да верху дуба дацягнуўся, Ларык знізу крычыць: «Леўка ідзе!..» А гэта дзед Васілёў, брыгадзірам тады рабіў. Як быць? Васіль каўзануўся ў буслінае кубло, лёг і не дыхае. А там ужо два яйкі ляжалі. Баяўся, каб не раздушыць. Буслы над ім трывожна кружаць. Унізе дзед з хлызінай стаіць. Во трапіў у нерат — ні ўзад, ні ўперад. Дак пасля яшчэ пасміхаліся равеснікі: «Раскажы, Васіль, як ты ледзь буслянят не вывеў...»

Цяпер Васіль не проста Манін сын, Райчын муж, а бацька пяцярых дзяцей і мае двух унукаў. Ён не проста трактарыст, а гаспадар шоўкаўскіх палеткаў. Яму баліць не толькі язва, але і сэрца, калі нешта не так робіцца. Умее ваяваць, але не заўсёды выходзіць пераможцам. Мо таму і Слязінкай стаў?

— Слухай сюды, нашы палі, як стаў саўгас, не бачылі гною. Хімікаты і ўгнаенні. Сыплюць толькі парашок: то ўгнаенні ўносяць, то травяць лебяду — зноў падсыпаюць, то жука травяць. Дак і зямля змерла. Як на Задзірэеўку ісці, там жа некалі бульба-бульба расла, а цяпер ваабшчэ нічога не расце. Пуста. Нават трава не хоча расці. Без толку бізуемся дзень і ноч... Каб прадаў насенне, тое б вярнуў, што ў зямлі гіне. Нашы палі сталі магіламі для зерневых. Крыўдна... Слухай, ты чуў ці бачыў, каб шоўкавец калі-небудзь сеяў травы на ворнай зямлі? Ніколі! Лугоў хапае, сенажацяў. У лесе да гібелі травы. Дак цяпер зверху ўказанне: у лясах кароў не пасвіць, не палажана. А знаеш, чаму? Бо там могуць быць кляшчы, і карова можа стаміцца, прывесу і малака не дасць. Во як!.. Нашы дзяды і прадзеды, каб паўставалі ды ўсё гэта пачулі, зноў бы памерлі... са смеху. Кароў толькі ў лесе і пасвілі. А цяпер мы для іх рыхтуем культурны выпас на ворнай зямлі... Іду некалі з поля, сядзіць на лавачцы дзед Сцяпан, кліча: «Ідзі сюды» Падходжу. «Ты колькі гектараў трактарам сееш?» — «Гектараў дзесяць». — «А я даўней рукой засяваў столькі ж. Зерне падвозілі толькі, а я з сяўнёй хадзіў, жменькай у кожны закуточак сеяў, не было агрэхаў...» Пасядзіш так з мудрым селянінам вечарок, не трэба і кніжак чытаць. Ад яго памудрэеш, і сорамна робіцца, калі што не так з полем ладзіў. Во як!..

З печы, з ложкаў тырчаць дзяціныя бялявыя галовы. Ім цікава слухаць бацьку. Разгаварыўся сёння. Васіль сам адчуў: выганяе пару з катла, бо даўно ўжо кіпіць, бурліць душа. Няхай і дзеці ведаюць, ім жыць у гэтым дворышчы, на шоўкаўскай зямлі.

— Слухай сюды, хто, скажы, прыдумаў вёсцы назву — не-перс-пек-тыўная? Пішам, гаворым, каб вуліцу падрамантавалі, каб могілкі абгарадзілі — як у глухую сцяну. От і ўласць. Усе начальнікі, каб адгаварыцца ад нашых просьбаў, узялі за моду казаць: «Вы— неперспектыўныя». Аж цяжка вымавіць. А яшчэ цяжэй пагадзіцца, што мы такія: я з Райкай, нашы канаплянічкі, усе астатнія шоўкаўцы... Чуе мая душа: упаду касцьмі ў полі — назаўтра забудуць. Патрэбен, калі цягнеш лямку... А-а, у каго ўласць, таго і снасць... — Васіль праслязіўся.

— Слязіначка мая, пойдзем ужо спаць, — падскочыла Райка, абняла Васіля.

Вяртаўся з Васілёвай хаты поначы. цёмна, хоць вока выкалі. Усе шоўкаўцы спяць. Ці спакойна ім у пасцелях? Што сніцца? Якія травы пілі, якія таблеткі глыталі, каб уціхамірыць боль, сцішыцца і заснуць?

Брэша нечы сабака. Зарабляе на хлеб. А мо мне падказвае, куды ісці? Мо злуецца, што позна швэндаюся? Мілы сабака, так усё хочацца ведаць пра шоўкаўцаў. А ён як бы адбрэхвае мне: для чаго, каму гэта трэба?

Каля Лідзінай хаты, як прывід, чорным камяком кідаецца ў ногі Мурка... Не спіцца ёй, чакае мяне. Адчыняем рыпучыя дзверы, уваходзім у пустую хату, як у чорную дамавіну, азызлую лядоўню. Толькі святло лямпачкі выратоўвае ад смяротэльнага страху і боязі.

Да раніцы не спім. Я пішу пра шоўкаўцаў. Мурка ганяе надалызных мышэй і пацукоў, якія ўсё больш нахабнічаюць у асірацелай Лідзінай хаце...

**Уладзімір МАРУК**



## Прысак

**Крык у горле,**
**атухні, пагасні.**
**Я на прысак аціхлы гляджу:**
**Вугалькіператлелыя ясніць**
**Нечаканая кропля дажджу.**

**А над прыскам**
**чутны перазовы**
**Ацалелага ў цемры святла.**
**Непрытульнасці дзікія совы**
**Пазляталіся грэцца ля тла.**

**І чаму так пякельна,**
**не знаю:**
**Кроў гарачая кратае скронь**
**Ці спакойная мудрасць зямная**
**Саграває мацней за агонь.**

## Лес

**Пешы шлях. І няходжаны Млечны.**
**Прыпыніліся ў лесе шляхі.**
**Гэты лес—**
**недасяжны, як вечнасць.**
**Гэты пень—**
**абуральна глухі.**

**Не спаганена трасцай і тлумам**
**Размаітасць лясное душы.**
**Тут збіраюцца вольныя думаць**
**І аблуды прыходзяць грашыць.**

**І ўзнімаецца лес па збавенне**
**Пад спагадлівы купал нябёс,**
**Тут глыбокае сэнсу карэнне**
**Выпраўляе сусветны хаос.**

●

**З абэцэды пракуднае долі**
**Не паспееш раскласці склады.**
**Як спружыны, заведзены ролі**
**І падзелены ролям гады.**

**І прынады вісяць, як у краме**
**Бранзалеты для гожай рукі.**
**Адштурхнуўшы збавенне рукамі,**
**Мы спяшаем да іх напрасткі.**

**І паверыўшы ў звычкі і веды,**
**Азірнуцца не можам дарма,—**
**Рассыпаецца сэнс абэцэды,**
**І збіраць яго—сэнсу няма.**

## Рукі

**Прымусілі задумацца грахі.**
**Перасціхае годнасць без прынукі.**
**І дождж ліецца посны і сухі**
**На светлы твар і выцвілыя рукі.**

**Я ўсё даверыў ім, сваім рукам,—**
**Паліць агонь і паланіць жаданні...**
**За драбязу свой хісткі трон аддам,**
**Грахі прызнаю на святым дазнанні.**

**І басаном пайду ў свае лугі,**
**На новы круг пякельнасці і мукі,**
**Пакуль душу сціскаюць ланцугі,**
**Што адкавалі выжытыя рукі.**

## Вужы

Зіхацiць маёй кароны
Залатыя рожкі.
М. БАГДАНОВІЧ.

**З балота выпаўзлі вужы.**
**Глыжы пашыліся ў балота.**
**Аеру рэзкія нажы**
**Крамсалі дрогкую дрымоту.**

**Іх цар у багне дадыхаў,**
**І пасварыліся вужакі:**
**Хто нема выў,**
**а хто брахаў,**
**Гырчэў з ухваткаю сабакі.**

**Дзялілі гразкі свой абшар,**
**Ажно з гразі павыпаўзалі,**
**А ўслед за імі...—**
**іхні цар,**
**Якога ў думках пахавалі.**
**І перасталі выць, брахаць,**
**Гырчэць з распустаю сабачай,**
**Бы і заўжды—**
**адно сіпяць,**
**Як прад сабой карону бачаць.**

**А цар завыў і затрымцеў,**
**З кароны знікла пазалота...**
**Ды ўжо ніхто не захацеў**
**Вярнуцца ў роднае балота.**

## Начная рака

**Чарнейшая за чорнае**
**Прысуха ноч была.**
**Асіплаю валторнаю**
**Рака ля ног сапла.**

**Навяглымі баскакамі**
**Сіпелі чараты.**
**І хвалі сонна плакалі,**
**Штурхаючы плыты.**

**І не пытаўся метрыкі**
**У лёгкай хвалі плыт.**
**А таямнічы свет ракі**
**Чытаў начы санскрыт.**

**А берагі намоклыя**
**Распытвалі аер,**
**Якія гэта модлы я**
**Згадаў з забытых вер;**

**І што гэта за крэскі я**
**Пакінуў на пяску,**
**Чыё жыццё біблейскае**
**Вісіць на валаску.**

●

**Бог не стварыў мяне сляпым,**
**А ні паганцам, ні брыдотай.**
**Я паламаў яго капыл**
**І ўсё прыдбаў уласным потам.**

**І вужаваў, і віжаваў,**
**Абы сваёй валодаць ратай,**
**І там штораз я выжываў,**
**Дзе іншы быў на глум распяты.**

**Дзе ўсе смакталі,**
**я смактаў,**
**Пакуль апошні зуб не выпаў...**
**І нехта ўслед зарагатаў,**
**І след мой попелам засыпаў.**

●

**Голас мой катавалі**
**Паслухмянасць і згода,**
**І свой страх выдавалі**
**За жаданне народа.**

**Выкшталцоныя знаўцы**
**Хцівых «нельга» і «можна»,**
**Ранніх думак крываўцы,**
**А спазнаў я вас—позна.**

**Бо ці здолею ўкленчыць,**
**Да святынь, што цураўся!**
**Паламаны парэнчы,**
**За якія трымаўся.**



Фота А. КЛЕШЧУКА.

# СВАБОДА ДУМКІ ЦІ НАСІЛЛЕ?

(Пачатак на стар. 5).

памылку і ўжо не страшацца жывога слова, а, мабыць, і нармальна ўспрымаюць вершы беларускага паэта Зніча.

У наступным, 1987 годзе беларускую прэсу запаланілі артыкулы аб варожай нацыяналістычнай дзейнасці заснавальнікаў і актыўных дзеячаў урада так званай БНР, аб «шкодным» уплыве на моладзь узнікшых нефармальных аб'яднанняў, аб «антыпатрыятычнай сутнасці» беларускай нацыянальнай сімволікі накшталт «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга. Але па радыё і тэлебачанні, на старонках газет і часопісаў чамусьці не расказвалі аб канкрэтных спробах адраджэння забытых традыцый, прапаганды гістарычных сімвалаў.

Не з газетных рэпартажаў, а хіба што ад саміх удзельнікаў пленумаў творчых саюзаў можна было даведацца аб найбольш вострых выступленнях у абарону роднай мовы, яе права на роўнае існаванне з рускай, яе ролі ў развіцці і ўзбагачэнні агульнай культуры народаў краіны. Чуліся папрокі за тое, чаму не змаглі прадухіліць з'яўлення ў «ЛіМе» паэмы Сяргея Грахоўскага «Балючая памяць» — усхваляванага расказу аб пераж ытай самім аўтарам трагедыі сталінскіх лагераў, грознага папярэджання аб недапушчальнасці паўтарэння падобных жахаў і здзекаў з Асобы.



Фота А. КАЛЯДЫ.

Процістаянне двух розных падыходаў да сутнасці дэмакратыі і галоснасці дасягнула свайго апагею, бадай, восенню 1988 года. Здарылася гэта, як мы памятаем, адразу пасля выхаду ў свет 39-га нумару часопіса «Огонёк», дзе быў надрукаваны артыкул Алеся Адамовіча «Оглянись окрест!» Ужо самі здымкі, змешчаныя ў якасці ілюстрацыі да артыкула, здорава напалохалі сталіністаў. На здымках былі паказаны прастрэленыя чарапы, бясконцыя рады касцей, вынятых з магіл расстраляных у Курапатах людзей, а таксама плакаты з надпісамі: «Сталін — кат», «Патрабуем мемарыялу ахвярам сталінізму». Тым большую занепакоенасць выклікала пісьменніцкая думка аб неабходнасці дэмакратычных перамен у Мінску, недапушчальнасці ператварэння яго ў «антыперабудовачную Вандэю».

Адсюль і змест той шырока разгорнутай кампаніі па выкрыцці «палітычнага невуцтва» аўтараў усялякага роду артыкулаў, адозваў, зваротаў, праграм. Самога Адамовіча абвінавачвалі ў тым, што ён стаў амаль што галоўным натхніцелем руху супраць асноў існуючай Сістэмы, адной з галоўных фігур у сіяніскай змове супраць «сацыялістычнай Айчыны». (Проста-такі на некалькі год апярэдзілі «Советскую Россию» і блізкія ёй па духу выданні, якія сёння ў такіх жа грахах абвінавачваюць Гарбачова, Якаўлева, Шэварднадзе і іншых «прарабаў перабудовы»).

Масавы чытач у той час і ў вочы не бачыў ідэйна-палітычнай платформы «Талакі», а крытыкі ўжо палохалі яго тым, што гэта платформа — ні больш, ні менш! — падвяргае грунтоўнай ператрэсцы асноватворныя палажэнні марксісцка-ленінскай тэорыі, насычана духам «даўно асуджанага гісторыяй і ўсім беларускім народам буржуазнага нацыяналізму». А ў жаданні моладзі аднавіць у Беларусі дзейнасць «беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы і беларускае грэка-каталіцкае (уніяцкае) царквы» ўбачылі не што іншае, як падкопы былых гітлераўскіх прыслугачоў у асобе збегшых ад народнага гневу паліцэйскіх і бургамістраў. Нікольні не лепшае, маўляў, і жаданне талакоўцаў узнавіць «практыку стварэння беларускіх вайсковых фарміраванняў», бо гэтым у свой час займаліся эсэры, беларускія буржуазныя нацыяналісты сумесна з белапольскімі акупантамі.

Прыкладна на такім узроўні крытыкавалі пасля, у верасні 1989 года, праграму і статут Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». Прычым Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прыцягнуў для аналізу такія ведамствы і ўстановы, як Саўмін, Белсаўпроф, праваахоўныя органы. У падрыхтаваным на аснове гэтага аналізу «Заключэнні» выказвалася нязгода з палажэннямі праграмы БНФ аб праве рэспублікі мець уласныя вайсковыя фарміраванні, аб вяршэнстве законаў БССР на яе тэрыторыі, аб неабходнасці адмены шостага артыкула Канстытуцыі СССР і ўстанаўлення шматпартыйнай сістэмы. Які далейшы лёс гэтых афіцыйна-навуковых высноў, вядома кожнаму з нас.

*Горкі прысмак пакінулі і іншыя кампаніі канфрантацыі* з грамадска-палітычнымі рухамі і партыямі. Беларуская сялянская партыя, да прыкладу, не падабаецца некаму за яе імкненне на практыцы рэалізаваць *лозунг «Зямля — сялянам»*. Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада — за прыхільнасць ідэям сацыяльнай справядлівасці і гуманізму, жаданне стварыць, абапіраючыся на вопыт іншых краін, дэмакратычную *прававую дзяржаву, у якой* забяспечваюцца эканамічная, палітычная і духоўная свабода грамадзян, роўнасць усіх перад законам, высокі ўзровень дабрабыту і культуры народа. «Камуністаў *Беларусі за дэмакратыю» не прызнаюць таму*, што яны хочуць удыхнуць новае жыццё ў аслабелы ад сталінскіх догмаў арганізм КПСС, зрабіць яе цывілізаванай палітычнай партыяй парламенцкага тыпу.

І *калі б справа толькі абмяжоўвалася славеснымі* баталіямі, узаемнай крытыкай — гэта было б яшчэ паўбяды. Галоўнае ў тым, што пастаянная і бясконцая псіхалагічная атака ў адзін выдатны момант *здольная ператварыцца ў матэрыяльную* сілу, у фізічнае дзеянне. Так здарылася і 30 кастрычніка 1988 года, калі ва ўмовах масіраванай ідэйна-палітычнай апрацоўкі грамадскай думкі некаторыя *работнікі праваахоўных органаў* і сапраўды паверылі, што на Маскоўскіх могілках і ў Курапатах сабраліся «экстрэмісты».

Вось адкуль, мабыць, і прыйшла ідэя дэпалітызацыі і дэпартызацыі такіх органаў, як і іншых дзяржаўных структур. Зразумелі гэтую ідэю і тыя мінскія міліцыянеры, якія прапаноўвалі альтэрнатыўны праект Закона БССР аб міліцыі. Зразумелі яе і лідэры рабочага руху ў сталіцы Антончык, Быкаў і Мухін, члены стачачных камітэтаў. На жаль, палітызаваны Вярхоўны Савет БССР замест глыбокага аналізу сутнасці справы і прыняцця разумных рашэнняў учыніў, можна сказаць, суд над стачкомамі, ды і над дзесяткамі тысяч рабочых, якія прыходзілі на плошчу Леніна і плошчу Перамогі ў тыя сонечныя красавіцкія дні.

## Палітычны вязень Валеры Сядоў

Менавіта ў такіх абставінах і стала магчымым тое, што здарылася 7 мая гэтага года, калі быў арыштаваны і пасаджаны пад варту супрацоўнік газеты «Навіны Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» Валеры Сядоў. А праз два месяцы праз «Народную газету» мы даведаліся аб невераготных умовах утрымання падследных у следчым ізалятары МУС БССР і аб галадоўцы Сядова з патрабаваннем прызнаць яго справу палітычнай і замяніць арышт падпіскай аб нявыездзе.

Гэтае паведамленне выклікала расчараванне і боль, прымусіла людзей зноў мыслена вярнуцца да той страшнай «віцебскай справы». Бо ўжо, як вядома, шмат каму з нас здавалася, што ў Беларусі нарэшце перарваны гэты злавесны ланцуг беззаконня, грубага парушэння правоў грамадзян. Здавалася, што ўжо ніколі не паўторыцца тое, што за турэмныя краты могуць быць кінуты і нават расстраляны ні ў чым не вінаватыя людзі. Хаця найбольш прадбачлівыя папярэджвалі, што занадта рана супакойвацца. Што яшчэ дзейнічае тая заганная сістэма барацьбы за высокія паказчыкі выкрыцця злачынстваў, якая забяспечвае кожнаму належнае месца, пасаду і званне. Што метастазы беззаконня ахапілі самыя розныя сферы жыцця і зводзяць на нішто ўсе намаганні па лячэнні задоўжанай хваробы.

Тут мы маем на ўвазе беззаконне ў шырокім сэнсе слова. Гэта значыць, усё тое, што робіцца або насуперак дзеючаму заканадаўству, або проста зыходзячы з таго, што правамоцная любая форма насілля над асобаю, калі яна не знайшла адлюстравання ў законе. Такое можа здарыцца, напрыклад, калі хто-небудзь *па сваім меркаванні або па чыім-небудзь* загадзе заводзіць «персанальную справу» на ўпаўне прыстойнага чалавека. Калі хто-небудзь можа бесцырымонна паймаць «на вудачку» ячэйку з вашым тэлефонным нумарам. *Калі з такой лёгкасцю могуць* запісаць на відэакасету, магнітафонную стужку любы ваш рух ці нават шэпт на мітынгу або ў пікеце перад будынкам Савета.

Што датычыць *Валерыя Сядова, то ён ужо даўно* трапіў пад асаблівы нагляд. Прычына даволі вядомая — яго крытычныя выступленні на палітычных мітынгах, актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзенні *палітычных акцый Беларускага народнага фронту*. А калі адміністрацыйным органам стала вядома, што ён ездзіў у Тбілісі і ўсклаў там гірлянду кветак на месцы забойства мірных жыхароў 9 студзеня 1989 года, *яны сталі дзейнічаць*, раскручваць механізмы той самай кабінетна-палітычнай прафілактыкі.

Так у чэрвені 1989 года хтосьці парэкамендаваў абмеркаваць у пярвічнай партарганізацыі пытанне *аб парушэнні членам КПСС В. Сядовым* правіл працоўнай дысцыпліны і яго адносінах да выканання плана аспіранцкай падрыхтоўкі. Да гонару камуністаў Інстытута філасофіі і права АН БССР, дзе разглядалася гэтая справа, яны катэгарычна адмовіліся надаць справе палітычны характар. У гэтым іх падтрымаў і прысутны на сходзе малады інструктар Першамайскага райкома КПБ г. Мінска В. Пятроў. І ў выніку шляхам тайнага галасавання была прынята мінімальная мера ўздзеяння — «паставіць на від». Сваё рашэнне партыйцы пацвердзілі і другі раз, калі партком Акадэміі навук прапанаваў правесці перагаласоўку па прычыне быццам бы дапушчанага парушэння працэдуры.

Аднак, ігнаруючы волю членаў пярвічнай арганізацыі, вышэйстаячыя інстанцыі ўзбудзілі «персанальную справу» В. Сядова, абвінавацілі яго ў нападках на партыю і іншых палітычных грахах і выключылі з радоў КПСС. А затым проста праінфармавалі камуністаў аб прынятым рашэнні.

Што ж, мне неаднойчы даводзілася чуць выступленні Валерыя Сядова на партыйных сходах і мітынгах. У іх ён звычайна гаварыў аб неабходнасці рэфармавання КПСС, аб тым, што партыя павінна служыць народу, а не кансерватыўнай частцы кіруючай вярхушкі. Крытыкаваў праяўленні кансерватызму ў рабоце выбарчых органаў КПБ і часам асабіста былога кіраўніка кампартыі Беларусі.

І калі два гады назад хтосьці бачыў у такіх высновах якуюсьці крамолу, то сёння ўжо нават кіраўнікі рэспубліканскіх і абласных партарганізацый чахвосцяць і ў хвост і ў грыву Генеральнага сакратара ЦК КПСС, членаў Палітбюро, патрабуючы прыцягнення іх да адказнасці, выключэння з партыі. А Ніна Андрэева і яе прыхільнікі на сваёй канферэнцыі ў Мінску ўсклалі на М. С. Гарбачова і яго прыхільнікаў віну за «контррэвалюцыйную» накіраванасць перабудовачных працэсаў, за імкненне разваліць Саюз, ліквідаваць КПСС як партыю ленінскага тыпу, звязалі ўсё гэта з дзейнасцю агентаў замежных спецслужбаў, або так званых «агентаў уплыву». І ніхто, наколькі вядома, не збіраецца заводзіць «персанальныя справы» на гэтых крытыкаў, прыдумваць ім якую-небудзь меру стрымання.

Прысутнічаў я і на тым лістападаўскім мітынгу на плошчы Леніна. Ніхто з яго ўдзельнікаў не ўчыняў там ніякіх крымінальна караемых дзеянняў. А пасля таго, што гаварылі аб правадыру і нашай рэчаіснасці пад час красавіцкіх стачак рабочыя, стоячы на трыбуне помніка Леніну, ускладанне тых «дароў» і прымацаванне беларускага нацыянальнага сцяга наогул выглядае як зусім зразумелая і бяскрыўдная акцыя даведзеных да адчаю дзяцей і ўнукаў Вялікага Кастрычніка.

У заключэнне хочацца звярнуць увагу яшчэ на адну акалічнасць. Мяркуючы па апублікаваным прадстаўленні Пракуратуры БССР Вярхоўнаму Савету БССР аб дачы дазволу на прымяненне мер адміністрацыйнага спагнання да народнага дэпутата рэспублікі, усё бліжэй і бліжэй праваахоўныя органы «падбіраюцца» да лідэра Беларускага народнага фронту З. С. Пазняка. І наўрад ці можна тут схаваць таксама палітычныя матывы праследавання, якімі б аргументамі і спасылкамі на артыкулы розных кодэксаў і законаў гэта ні прыкрывалася.

Мабыць, нехта не здольны да гэтай пары зразумець, якія надзеі ўскладаюць людзі на дэмакратычныя пераўтварэнні і абнаўленне свайго ладу жыцця. І галоўнае — не здольны зразумець, што непасрэднымі творцамі і носьбітамі гэтых перамен з'яўляюцца сам народ і вылучаныя з яго асяроддзя лідэры, людзі высокага інтэлектуальнага ўзроўню і грамадзянскай мужнасці, людзі якія разумеюць аб'ектыўныя патрабаванні часу і могуць штосьці зрабіць для іх практычнага ўвасаблення.

Мабыць, ёсць яшчэ нямала людзей, якіх нічому не навучыў наш уласны гістарычны вопыт па ўстанаўленні амаль поўнага аднадумства, усенароднага адзінства, дзеля дасягнення якога, па выразу Васіля Быкава, адзін са старажытнейшых і культурнейшых еўрапейскіх народаў праліў рэкі ўласнай і чужой крыві.

# РЭЛІГІЯ І МОВА

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук

## 5. УЗ'ЯДНАНЫ ЛЮБОЎЮ ЦІ ДАЛУЧАНЫ ПРЫМУСАМ?

Ведаючы, што са скасаваннем уніі не так будзе проста справіцца аднаму праваслаўнаму духавенству, у цэнтры своечасова паклапаціліся і аб тым, каб прыцягнуць да гэтай справы і свецкія ўлады. У гэтых мэтах давялося пайсці і на ўжыванне розных форм заахвочвання. Віцебскаму губернатару Шрэдэру, да прыкладу, сам імператар Мікалай I ва ўзнагароду за схіленне ў праваслаўе 33-х тысяч беларускіх уніятаў прызначыў гадавое жалаванне ў памеры 33-х тысяч рублёў замест былых 1200 рублёў. Атрымоўваючы такую падачку, мясцовыя чыноўнікі ў пытаннях ліквідацыі уніі на Беларусі часам былі куды больш актыўныя за саміх служыцеляў праваслаўнага свяшчэннага кліру.

Ва ўсіх выпадках надзейнай і моцнай падмогай для тых, хто займаўся ліквідацыяй уніі на Беларусі, з'яўляліся царскія войскі. Тут у іх ва ўсе часы не было недахопу. Для доказу прывяду толькі адзін факт, у праўдзівасці якога нельга сумнявацца, бо ён засведчаны самім літоўскім мітрапалітам Іосіфам Сямашкам: «18 снежня 1834 года прыязджалі ў горад Вілейку з Мінска грэка-расійскія свяшчэннікі дзеля схілення ў праваслаўе шматлікіх вілейскіх уніятаў, лікам больш за дзве тысячы. Але місія іх не мела поспеху. Пасля іх выезду гараднічы Дзяконскі, уварваўшыся ў мясцовую уніяцкую царкву ў час богаслужэння, разагнаў адтуль народ, узяў сабе ключ і аддаў яго раскватараваным у Вілейцы праваслаўным ваенным свяшчэннікам, дазволіўшы ім выконваць тут сваё палкавое богаслужэнне. Затым, паводле патрабавання мінскага віцэ-губернатара, салдаты, якіх суправаджаў паліцэйскі чын, прыгналі уніятаў з навакольных вёсак у Вілейку; тут 150 з іх, у нецвярозым стане, далі падпіску на далучэнне да праваслаўя, пасля чаго грэка-уніяцкі свяшчэннік быў выведзены з Вілейкі таксама пры дапамозе салдатаў». Прыведзены факт спойвання — далёка не адзіны ў гісторыі ліквідацыі уніі на Беларусі.

Істотным абмежаваннем, а то і поўным выцясненнем беларускай мовы з уніяцкай царквы моцна падрываліся яе нацыянальныя асновы. Гэтак жа жорстка дзейнічалі кіраўнікі рускай праваслаўнай царквы і ў дачыненні да іншых праяў нацыянальнага духу ў практыцы уніяцкай царквы, не спыняючыся нават перад фізічнымі здзекамі з найбольш адданых ёй свяшчэннікаў. Ёсць звесткі, што прыкладна паўтары сотні з іх не па сваёй волі апынуліся ў далёкай і халоднай Сібіры. Сёй-той з пабornікаў і змагароў за уніяцкую веру з мэтай пазбегнуць кары, турэмных засценкаў уцёк да сваіх аднаверцаў у Галіцыю, якая ў той час знаходзілася пад уладай Аўстра-Венгрыі. У Курску са згоды тамашняга губернатара М. Мураўёва быў заснаваны часовы манастыр «для зняволення тых духоўных, знаходжанне якіх у заходніх губернях прызнавалася недарэчным, адзіна па характары іх думак і рэлігійных перакананняў... Мясцовыя праваслаўныя праасвяшчэнныя павінны былі, праз кожныя два месяцы, паведамляць обер-пракурору Св. Сінода аб характары думак і паводзінах сасланых».

Найсвяцейшы сінод, імператарскі двор былі цалкам задаволены дзейнасцю Іосіфа Сямашкі і яго паплечнікаў у дачыненні да уніяцкай царквы. Усё больш пагаджаліся, што надыходзіць час для прыняцця нейкага афіцыйнага акта, які б узаконіў факт далучэння уніятаў да праваслаўя. Для складання яго і сабраліся 12 лютага 1839 года ў Полацку епіскапы Іосіф літоўскі, Васіль полацкі, вікарны епіскап брэсцкі Антоній і праваслаўны полацкі епіскап Ісідор. У час падпісання гэтага трагічнага для уніятаў дакумента іх інтарэсы ўжо не мог адстойваць мітрапаліт. Не мог па той прычыне, што яго ўжо не існавала ў прыродзе. Апошні уніяцкі мітрапаліт у Расіі Іясафат Булгак, праціўнік уніі з праваслаўнымі, сканаў у лютым 1838 года. Бог нібы пазбавіў яго тых пакут, якія яму давялося б перажыць, удзельнічаючы ў складанні прашэння на Найвышэйшае імя і «Саборнага акта» аб уз'яднанні уніятаў з праваслаўнаю царквою. Апошні з дакументаў падпісалі 25 духоўных асоб высокага рангу. Усе яны да гэтага былі належным чынам апрацаваны з боку Найсвяцейшага сінода, добра зразумелі надзвычайную складанасць канфесійнай сітуацыі.

Імператар Мікалай I і Найсвяцейшы сінод пагадзіліся і з Саборным актам і з прашэннем уніяцкага духавенства. Але, помнячы аб зусім яшчэ нядаўніх свежых фактах супраціўлення ліквідацыі гэтай веры і баючыся новых выступленняў, палічылі патрэбным у сваёй пастанове запісаць: «...а да разнастайнасці некаторых мясцовых звычаяў, якія не датычаць догматаў і таінстваў, паказваць апостальскую ласку і да старажытнай аднастайнасці вяртаць тых (уніятаў.—**Л. Л.**) пры дапамозе свабоднага пераканання з лагоднасцю і доўгацярпеннем». З мэтай папярэдзіць магчымыя канфлікты забаранялася правядзенне публічнага малебна ў знак гэтай падзеі, рэкамендавалася ўсё рабіць так, каб народ не заўважаў ніякіх знешніх перамен, каб усё працягвалася нібыта ў сваім ранейшым рэчышчы. У найбольш ненадзейных паветах узмацнілі вайсковыя каманды. Дзякуючы своечасова прынятым і даволі прадуманым захадам акт аб'яднання уніятаў з праваслаўнымі адбыўся ў асноўным мірна. Але, зыходзячы з усяго вышэйсказанага, не было падстаў на медалю ў гонар гэтай падзеі высякаць такія словы: «Отторгнутые насилием (1596) воссоединены любовию (1839)».

Галоўнай дзеючай асобе ўз'яднання дзвюх канфесій Іосіфу Сямашку быў нададзены сан архіепіскапа. Сам жа ўказ правячага сената аб іх уз'яднанні быў даведзены да ўсеагульнага ведама толькі ў кастрычніку 1839 года, калі былыя уніяты ўжо паспелі трохі звыкнуцца з новымі парадкамі ў іх рэлігійным жыцці. Як і меркавалася, па першым часе яны былі не вельмі адметнымі: новаўвядзенні паступова выцяснялі догматы і звычаі былой уніяцкай веры. У простага народа не было асаблівай патрэбы пратэставаць, што ў час малебнаў пачалі замест рымскага папы ўпамінаць Найсвяцейшы сінод, што не вымаўляліся словы «і ад Сына», што епіскапы прыходзілі ў цэрквы з барадамі, у рызах, клабуках (высокая цыліндрычная шапка з пакрывалам). Адзінае, з чым цяжка было пагадзіцца, што ў набажэнства, казанні і выкананне іншых рэлігійных рытуалаў не дапускалася мясцовая мова. Аднак даводзілася мірыцца і з гэтым, бо людзьмі разумелася, што ўсялякае супраціўленне грознаму духоўнаму дыктату з цэнтра не дало б жаданага выніку, бо вельмі ж няроўнымі былі сілы, што стаялі па розных баках барыкады. Не волевыяўленнем вернікаў, а безвыходнасцю іх становішча, цьмяным уяўленнем пра ўсё тое, што адбылося, можна вытлумачыць, што на працягу 1938 года ў лона праваслаўнай царквы вярнулася паўтара мільёна чалавек нашага краю.

Ды тое, што лёс наканаваў беларускаму народу ў перадапошнія два дзесяцігоддзі да прымусовага зліцця уніяцтва з праваслаўем, ні ў якое параўнанне не ідзе з тым, што рабілася пазней, калі апаў страх за тое, як паставяцца да гэтай падзеі ўнутры краіны і за яе межамі. Цяпер ліквідацыя этнічных рыс беларусаў з мэтай яго ўрастання ў рускую народнасць набыла яшчэ больш наступальны і сур'ёзны характар. Для выканання гэтай няўдзячнай місіі Найсвяцейшы сінод падкінуў на Беларусь дадатковыя, свежыя сілы. Прасталінейнасць і напорыстасць, з якімі прысланыя сюды з цэнтра праваслаўныя свяшчэннікі перацягвалі на свой бок мясцовых хрысціян-уніятаў, нават перасягнула колішнюю дзейнасць езуітаў па правядзенні тут палітыкі Ватыкана. Калі акаталічванне беларусаў у перыяд Рэчы Паспалітай праводзілася пад лозунгам «адзін кароль—адна вера», дык цяпер канчатковае разбурэнне уніяцкай царквы праваслаўныя іерархі ў хаўрусе з расійскімі чыноўнікамі ажыццяўлялі пад дэвізам: адзін цар—адна вера.

Першай прыняла на сябе ўдар русіфікацыі беларуская мова. Відаць, свецкія і духоўныя асобы, што распрацоўвалі і кіравалі правядзеннем у жыццё гэтай палітыкі, добра ведалі, што асіміляцыя любога этнаса найперш за ўсё павінна пачынацца з абмежавання функцый яго роднай мовы. У той час адной з важнейшых функцый мовы з'яўлялася набажэнская. Вось чаму незалежна ад таго, у якой ролі ва уніяцкай царкве ўжываліся беларуская ці польская мовы, на змену ім у літургію імкнуліся ўкараніць царкоўнаславянскую, а казанні, розныя рэлігійныя рытуалы весці толькі на рускай, нягледзячы на тое, як усе гэтыя моўныя метамарфозы разумеюцца беларусамі. Пра іх родную мову іерархі рускай праваслаўнай царквы і слова не прамовілі, нібы яна не існавала ў прыродзе.

Справядліва кажуць, што час — найлепшы лекар, бо тое, што ўдалося параўнаўча лёгка зрабіць з уніяцтвам актам 1839 года, не так добра прыжывалася пазней. Уніяцкая царква мела багатыя традыцыі, у тым ліку і ва ўжыванні мясцовай, беларускай мовы. Ад яе, як паказалі наступныя гады, не вельмі хацелі адлучацца ні былыя уніяцкія свяшчэннікі, ні іх паства. Верным ёй пасля пераходу ў праваслаўе заставаўся і Пружанскі пратаіерэй М. Баброўскі. Чытанне ім пропаведзяў на простанароднай мове з'яўлялася адным з фактараў масавага наведвання службы ў царкве мясцовым насельніцтвам. Яшчэ цяжэй было ўкараніць рускую мову ў тых былых уніяцкіх храмах, куды ўдалося пранікнуць польскай мове ў выніку правядзення паланізацыі насельніцтва Беларускага краю.

Іосіфа Сямашку, якому ў 1852 годзе надалі сан мітрапаліта літоўскага і віленскага, вельмі ўразіла, калі высветлілася, што яшчэ і на той час на руках у многіх свяшчэннікаў скасаванай грэка-рымскай царквы мелася шмат служэбнікаў і адпраўнікаў былых уніяцкіх выданняў. Пры былых уніяцкіх храмах у 1852 годзе ўдалося выявіць 181 служэбнік, 51 адпраўнік, 332 актойхавы, 174 ірмалагіёны, 456 трыадзеяў, 392 мінеі, 72 трыфалагіёны, 34 велічанні, 1 служба Іясафату Кунцэвічу, 2 службы святу Цела Хрыстова. Усе яны былі спалены ў прысутнасці самога Іосіфа Сямашкі. У наступныя тры гады ў полымі кастроў згарэла яшчэ каля дзвюх тысяч розных уніяцкіх выданняў, у тым ліку 14 службаў Іясафату Кунцэвічу. Як бачым, у страце духоўных каштоўнасцей беларускага народа вялікую адказнасць нясе руская праваслаўная царква. І пазней яна гэтак жа жорстка знішчала ўсё, што магло нагадваць людзям пра колішнія уніяцкія традыцыі.

Гэтыя далёка не поўныя факты пагромаў духоўных і матэрыяльных набыткаў уніяцтва на Беларусі не даюць падстаў пагадзіцца з тым, што сказаў у студзені 1989 года мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт газеце «Літаратура і мастацтва» (20.01.89 г.): «Царква ніколі не выступала супраць развіцця нацыянальных культур, наадварот, яна садзейнічала яму. На тэрыторыі Расійскай імперыі яна несла асвету малым народам, клапацілася пра тое, каб ім былі зразумелы слова боскае і свяшчэннае песнеспяванне, богаслужэнне». Каб жа так! У дэнацыяналізацыі культуры і асветы Беларусі руская праваслаўная царква зрабіла нікольکі не менш, чым афіцыйныя ўлады Расійскай імперыі. У пытаннях мовы праваслаўная царква вельмі часта займала куды больш правыя пазіцыі, чым свецкія ўлады, брала на сябе ледзь не галоўную ролю ў русіфікацыі. Мітрапаліт Іосіф Сямашка шчыльна зачыніў дзверы ў прыходскія вучылішчы для беларускай мовы, хаця і прызнаваў, што іх навучэнцы з ліку беларусаў і літоўцаў «размаўляюць як паміж сабою, так і з панамі, на сваіх прыродных дыялектах».

З асаблівай стараннасцю папрацавалі над разбурэннем этнічнай самасвядомасці маладых асоб беларускага паходжання ў Літоўскай духоўнай семінарыі (да 1845 года размяшчалася ў Жыровічах, а затым была пераведзена ў Вільню), да дзейнасці якой заўсёды быў нераўнадушным і сам мітрапаліт Іосіф Сямашка. Ён з вялікай радасцю пісаў, што дзякуючы адданым сваёй справе духоўным настаўнікам юнацтва тут пераўтваралася сэрцам, абнаўлялася пачуццём «свяцкай любові да вялікага агульнага нашага рускага племені і рускай айчыны», забываючыся дзеля ісціны сказаць, што дасягалася гэта праз поўнае выключэнне з навучальна-выхаваўчага працэсу ўсяго таго, што нагадвала б моладзі аб іх нацыянальным жыцці, у тым ліку і аб матчынай мове. Ёй не знаходзілася месца ні ў духоўнай семінарыі, ні ў Жыровіцкім храме.

(Працяг на стар. 14).




З серыі «Помнікі дойлідства Беларусі». Мастак У. БАСАЛЫГА.

(Працяг. Пачатак у №№ 29, 31, 32, 33).

# Мастак з Лошы

**СПАДЧЫНА**

На Поўначы Гродзеншчыны, каля старога Чорнага тракта, што вядзе на Вільню, размясцілася вонкава някідкая, але па-свойму маляўнічая вёска Лоша. Старыя хаты, сярод якіх многа даваенных. Запушчаная драўляная капліца з рэшткамі цвінтарышча, па якім, кажуць, хадзілі і Каліноўскі, і Сыракомля. Ледзь бачнае ўзвышэнне, на якім стаяла карчма Бастомскіх. Сляды ад вадзянога млына на Лошы. Прысады, што вялі да лашанскага двара, таксама ўжо зруйнаванага...

Пра лашанскі двор упершыню я пачуў у раннім дзяцінстве, калі ў нашы Расолы прыйшла вестка, што там застрэліўся ці быў застрэлены малады мастак. Маўляў, віленскія настаўнікі сказалі яму, што ўжо болей нічога не змогуць яму даць, што трэба яму ехаць у Францыю. І ён, ведаючы, што ў маці грошы павінны быць, запатрабаваў іх. Але маці, будучы ўжо ўдавою, якраз пасябравала з уладальнікам суседніх Рымуняў. А той запярэчыў: аніякіх грошай, усё павінна застацца толькі нам... І тады адбылася трагедыя. Па адной чутцы, даведзены да роспачы мастак застрэліўся сам. Па другой—яго ў час сваркі застрэліў рымуньскі пан, а потым падкупленая паліцыя прызнала забойства самазабойствам. Ва ўсякім выпадку, памятаецца з дзяцінства, былі цяжкасці з пахаваннем: духавенства не дазваляла, каб апошнім прытулкам мастака стала пасвенчанае цвінтарышча.

Гэтая трагічная гісторыя не давала спакою мне і ў студэнцкія, і ў сталыя гады. Спакваля даведаўся, што мастака звалі Леў Дабжынскі, што ў лашанскай капліцы пахаваны яго дзед, царскі саветнік і сенатар Антон Дабжынскі, які, тым не меней, спрыяў вызваленчым рухам. Не раз, бываючы на радзіме, хадзіў я ў Лошу. Але помніка мастаку ўжо не было (нехта, казалі, пакваліўся на прыгожы камень). Капліца была таксама разбурана, асабліва яе падзямелле, дзе ў труне сенатара мясцовыя вандалы шукалі золата. Жыхары Лошы не маглі сказаць нічога пэўнага. І тады, пішучы кнігу «Астравеччына, край дарагі...», я звярнуўся за дапамогай у Варшаву, у Інстытут гісторыі мастацтваў. У адказ доктар Рышард Брыкоўскі прыслаў мне ксеракопію... вельмі рэдкага каталога пасмяротнай персанальнай выставы Льва Дабжынскага, якая адбылася ў Вільні. З каталога вынікала, што большасць прац мастака была прысвечана жыхарам Лошы і навакольным краявідам. Другой жа ўлюбёнай яго тэмай стала Вільня, яе старыя вулачкі. У каталогу былі прыведзены асноўныя біяграфічныя звесткі пра Льва Дабжынскага. Нарадзіўся ён у 1907 годзе ў Пецярбурзе. Сям'я Дабжынскіх была па жаночай лініі ў сваяцтве з Львом Талстым (адсюль — і імя мастака). Юнацкія гады Льва Дабжынскага прайшлі ў родавым маёнтку Лоша. Адсюль ён скіраваўся ў Віленскі універсітэт — вучыцца жывапісу ў прафесараў Рушчыца і Штурмана, якія і параілі яму прадоўжыць адукацыю ў Парыжы. Аднак трагічная смерць, што наступіла 26 лістапада 1937 года, не дала здзейсніцца далейшым планам і творчым задумам таленавітага мастака (талент яго прызнавалі ўсе рэцэнзенты, якія ацэньвалі персанальную выставу).





Малюнкі Л. ДАБЖЫНСКАГА.

Ужо стаўшы старшынёй камісіі «Вяртанне» Беларускага фонду культуры, я напісаў пра Льва Дабжынскага артыкул для раённай газеты «Астравецкая праўда»: а можа, хто памятае мастака, ведае пра лёс яго шматлікіх твораў?! У адказ землякі паведамілі, што ў Польшчы, у Гданьску, яшчэ жыве яго сястра — доктар медыцыны і пісьменніца Надзея Бітэль-Дабжынская. Тут жа я напісаў ёй ліст з мноствам пытанняў. І найпершае з іх было: што са спадчынай? А неўзабаве з Гданьска прыйшоў адказ, у якім спадарыня Бітэль-Дабжынская падрабязна распавядала пра свайго брата:

**«Быў гэта для мяне вельмі блізкі духоўна чалавек, сціплы, добразычлівы. Нашы вясковыя «лашаньчукі» яго вельмі любілі, заўсёды называлі яго па імю—Лёўка... Паміж вёскай і т. зв. дваром была вялікая згода і прыязнасць... Майго нябожчыка бацьку, таксама мастака, як і майго нябожчыка брата, нашы «лашаньчукі» вельмі любілі. Брат часта рабіў накіды алоўкам і маляваў нашых «лашанскіх» дзяцей, коней і вёску. У мяне ёсць цэлы альбом яго эскізаў, які збярогся таму, што мая маці захавала яго праз усю сібірскую вандроўку. Іншыя карціны, што засталіся ў Лошы, загінулі. Але 372 ці 373 карціны былі перададзены на часовае захаванне пп. Жукоўскім, якія жылі ў Вільні па вул. Кальварыйскай, 9. а потым, пасля выезду пп. Жукоўскіх і іх смерці, нібыта іх перадалі брату п. Жукоўскай п. Бішэўскаму, цяпер таксама нябожчыку, ад якога маёй сяброўцы ўдалося выпрасіць 12 карцін, маляваных алейнымі фарбамі,—яна прывезла мне іх у Гданьск. Астатнія загінулі. Можа, іх распрадавалі, каб пражыць? Шэсць карцін майго брата апынуліся разам з працамі праф. Штурмана, і іх павінен быў прывезці ў Лодзь сябар брата п. Навіцкі, у якога знаходзілася таксама пасмяротная маска брата... Дыпломная праца майго брата засталася ў Віленскім універсітэце, калі ў горад уваходзілі літоўцы, вісела яшчэ там на сцяне (гэта было вялікае палатно)».**

Да наступнага ж ліста Надзеі Бітэль-Дабжынскай быў прыкладзены яе... беларускі верш, напісаны яшчэ ў 1939 годзе. «Дзіўным выпадкам» збярогся ён—насуперак усім ліхалеццям (лацінскі алфавіт арыгінала транскрыбірую на кірыліцу):

**Пакацілася восень аржышчамі**
**Паміж гоняў, між шэрых палос,**
**Зашаптала апаўшымі лісцямі**
**Прыдарожных плакучых бяроз.**

**Сумным ветрам між хатамі плакала,**
**У шыбы звонячы дожджыкам слёз,**
**І па закрутках жаласна ляпала,**
**Бы пакрыўджаны горасны лёс.**

**У лазнях лёнам сухім адхіналася,**
**Тут жа пралася на цэўках варотных,**
**Туманом над ракой пасцілалася—**
**Вот, казаў бы, што сцены палотнаў.**

Усяго тры чатырохрадкоўі — вобразныя (відаць, вобразнасць была «ў крыві» Дабжынскіх), чыстая па мове (ані воднага паланізма!). Чытаючы іх, думалася пра блізкасць тагачаснай мясцовай інтэлігенцыі да вясковага люду. А яшчэ пра тое, што — калі б інакш склаўся



На адкрыцці помніка Льву Дабжынскаму. Выступае генерельны консул Рэспублікі Польшча ў Мінску Тадэвуш Мысьлік.

лёс — у асобе Надзеі Бітэль-Дабжынскай мы сёння, можа, мелі б вядомую беларускую паэтэсу.

Лісты спадарыні Бітэль-Дабжынскай на пачатку мінулага года я зачытаў жыхарам Лошы. І яны прыйшлі да высновы, што трэба аднавіць і капліцу, і помнік. Частку грошай вяскоўцы сабралі самі, частку даў мясцовы калгас «Шлях Леніна». Сродкі на помнік Льву Дабжынскаму выдзеліў Беларускі фонд культуры. Яны былі пералічаны астравецкаму раённаму аддзелу культуры, і па яго заказу мясцовы майстар Антон Шафран распачаў работу.

Надпіс на помніку, вядома, узгадняўся, прытым не раз, са спадарыняй Бітэль-Дабжынскай. У апошні час наша перапіска ажывілася. З Гданьска прыйшлі дзве бандэролі. У большай былі абяцаныя ксеракопіі эскізаў Льва Дабжынскага. І сярод іх — выявы лашанскага двара, пабудаванага ажно ў 1776 годзе з лістоўнічнага дрэва, лашанскага млына, вясковых хат, навакольных краявідаў, дзяцей, свойскай жывёлы. Асабліва любіў мастак старыя, разгалістыя дрэвы...

У другой жа бандэролі была кніжка Надзеі Бітэль-Дабжынскай «Як ведзьма Агрыпіха знахарству мяне вучыла», выдадзеная сёлета ў Гданьску. Кніжка гэтая мае яўна аўтабіяграфічны характар, напісана на падставе ўспамінаў дзіцячых год. Яе галоўная гераіня, знахарка Агрыпіха, гаворыць «мовай, вельмі набліжанай да беларускай». У кніжцы шырока выкарыстаны беларускія народныя казкі і легенды — пра д'ябла, які аб'еўся дзікіх грушак, пра хлопчыка, што замяніўся ў кветку васілёк, пра воўчыя ягады, якія — калі іх палізаць — ператвараюць чалавека ў «вільчанё».

З кнігі паўстае прывабны і адначасова трагічны вобраз народнай знахаркі Агрыпіхі, якую вяскоўцы лічаць ведзьмай. А яна робіць людзям дабро, лечачы іх зёлкамі, адкрываючы ім вочы на харство свету. Свае веды, свой народны вопыт (як збіраць траўкі, як харчавацца, як адрозніваць дабро ад зла) Агрыпіха перадае маладой уражлівай дзяўчынцы — у ёй лёгка ўгадваецца аўтарка кнігі, пазнейшая лекарка, якая не раз выкарыстоўвала ў сваёй медыцынскай практыцы лекі і замовы, засвоеныя ад беларускай «ведзьмы».

У пасляслоўі да кнігі вядомы польскі празаік сябра беларускай літаратуры Збігнеў Жаковіч (дарэчы, ураджэнец Ашмяншчыны) параўноўвае яе са «Шляхціцам Завальняй» Яна Баршчэўскага, падкрэслівае, што Надзея Бітэль-Дабжынская «ўвайшла ў глыбокія, патаемныя слаі ведаў пра душу беларускага народа», дакладна перадала гаворку «свету Ашмянскага ўзгор'я».

Тыя ж самыя вартасці кніжкі адзначаны і ў рэцэнзіі Тарэсы Звяжхоўскай «Вучаніца ведзьмы Агрыпіхі», апублікаванай у адной з гданьскіх газет. З рэцэнзіі мы даведваемся таксама, што наша зямлячка Надзея Бітэль-Дабжынская з'яўляецца аўтарам 69 навуковых прац з галіны дзіцячай эндакрыналогіі, што ў час вайны яна змагалася ў партызанах з фашыстамі...

І вось летам гэтага года ў Лошы адбылося адкрыццё помніка на магіле Льва Дабжынскага, прадстаўніка сям'і, чыя грамадская і культурная дзейнасць належыць польскаму, беларускаму і рускаму народам, з'яўляецца своеасаблівым масцікам паміж імі. На ўрачыстасць прыехалі генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Мінску Тадэвуш Мысьлік з жонкай Ганнай, прадстаўнікі Беларускага фонду культуры і Беларускага літаратурнага фонду, раённых улад. Прыйшлі жыхары Лошы, навакольных вёсак. Усе з нецярплівасцю чакалі Надзею Бітэль-Дабжынскую, якая абяцала прыехаць. Але хвароба перашкодзіла ёй здзейсніць даўнія планы — на ўрачыстасці прысутнічаў толькі яе прадстаўнік. Пасля прамоў у адрамантаванай капліцы адбылася імша за душу Льва Дабжынскага. А ў лашанскай бібліятэцы адкрылася выстава рэпрадукцый з яго эскізаў. Мясцовыя фальклорныя гурты выконвалі народныя песні — беларускія і польскія... Так узнаўлялася яшчэ адна нітачка, што лучыць мінулае і сучаснасць, лучыць суседнія народы.

...А на цвінтарышчы каля капліцы спадарыня Ганна Мысьлік, гісторык мастацтва, звярнула ўвагу на іншы помнік. Раней ён ляжаў перакулены. Цяпер жа, перад урачыстасцю («каб не псаваў выгляд»), паставілі і яго. І можна ўжо было, хоць і з цяжкасцю, прачытаць прозвішча, выбітае ў сярэдзіне XIX ст.,— «Сузін». Прозвішча роду, заслужанага для польскай і беларускай культур. Відаць, Сузінам належала Лоша да Дабжынскіх, відаць, яны былі ў сваяцтве... На нітачцы, якая здавалася канчаткова разблытанай, завязаўся новы вузельчык.

**Адам МАЛЬДЗІС.**


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**
Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ— 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; 33-22-04; — аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12